І. І. Паўлоўскі

# Беларуская мова

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
П21

Рэцэнзент

метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 60 г. Мінска» (настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі *Ю. А. Храмцэвіч*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — дамашняе заданне;

 — правілы, азначэнні, памяткі;

 — дадатковае заданне да практыкавання;

 — значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку падручніка;

 — заданне па развіцці мовы вучняў

ISBN 978-985-559-268-7 (ч. 2)
ISBN 978-985-559-173-4

# СЛОВА

## НАЗОЎНІК

### Змяненне назоўнікаў множнага ліку

**1.** Разгледзьце табліцу змянення назоўнікаў множнага ліку па склонах. Параўнайце склонавыя канчаткі назоўнікаў 1, 2 і 3-га скланенняў у множным ліку.

| Склон | ж. р. *(-а, -я)* (1-е скланенне) | м. р. і н. р. *(-а, -е, -о)* (2-е скланенне) | ж. р. (нулявы канчатак) (3-е скланенне) |
|---|---|---|---|
| Н. | *сёстр**ы**, кніг**і*** | *вучн**і**, дрэв**ы*** | *гус**і**, ноч**ы*** |
| Р. | *сясцёр, кніг* | *вучн**яў**, дрэў* | *гус**ей**, нач**эй*** |
| Д. | *сёстр**ам**, кніг**ам*** | *вучн**ям**, дрэв**ам*** | *гус**ям**, нач**ам*** |
| В. | *сясцёр, кніг**і*** | *вучн**яў**, дрэв**ы*** | *гус**ей**, ноч**ы*** |
| Т. | *сёстр**амі**, кніг**амі*** | *вучн**ямі**, дрэв**амі*** | *гус**ямі**, нач**амі*** |
| М. | *аб сёстр**ах**, аб кніг**ах*** | *аб вучн**ях**, аб дрэв**ах*** | *аб гус**ях**, аб нач**ах*** |

- Як змяняюцца назоўнікі множнага ліку?

**2.** Выпішыце назоўнікі множнага ліку. Выдзеліце канчаткі.

Сябры, птушкі, бібліятэка, расліны, лес, дрэвы, зямля, поле, сенажаць, вочы, сняжынкі, снег, мароз, вобласць, дарога, ноч, зоркі, сонца, месяц, вуліцы, кнігі, ручка, вёска, гарады, машыны, цягнік, чалавек, людзі.

- Праскланяйце назоўнікі *сябры* і *птушкі*.

## Назоўны, родны і вінавальны склоны

**3.** Разгледзьце табліцу назоўнага, роднага і вінавальнага склонаў назоўнікаў множнага ліку, назавіце канчаткі.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | хто?<br>што? | *сёстр***ы**, *вучн***і**, *мыш***ы**<br>*песн***і**, *дрэв***ы**, *ноч***ы** |
| Р. | каго?<br>чаго? | *сясцёр*□, *вучн***яў**, *мыш***эй**<br>*песень*□, *дрэў*□, *нач***эй** |
| В. | каго?<br>што? | *сясцёр*□, *вучн***яў**, *мыш***эй**<br>*песн***і**, *дрэв***ы**, *ноч***ы** |

- Параўнайце канчаткі вінавальнага склону з канчаткамі роднага і назоўнага склонаў назоўнікаў множнага ліку. Вызначце, канчаткі якіх назоўнікаў вінавальнага склону супадаюць з канчаткамі назоўнага і роднага склонаў.



**Калі назоўнікі множнага ліку адказваюць на пытанне к а г о?, то супадаюць канчаткі роднага і вінавальнага склонаў.**

**Калі назоўнікі множнага ліку адказваюць на пытанне ш т о?, то супадаюць канчаткі назоўнага і вінавальнага склонаў.**

**4.** Прачытайце тэкст. Запішыце. Знайдзіце назоўнікі ў множным ліку. Абазначце іх склон і канчаткі. (Гл. табліцу на с. 3.)

Сярод бяроз і асін растуць маладыя дубкі. Гэта нязграбныя, тонкія дрэўцы. Нават у моцны вецер не пачуеш іх шуму. Бярозы і асіны выраслі на дзве галавы вышэйшыя за дубкі. Мабыць, не дацягнуцца дубкі да красунь бярозак.

Але пройдуць гады. Пачырванеюць асіны. Час падточыць іх карані. Нарасты пакрыюць бярозы. Дрэвы апусцяць да зямлі свае галіны, прагнуцца ад старасці.

А дубкі толькі набяруць сілу, яшчэ мацней урастуць у зямлю. *Паводле В. Аксёнава*

- Першы сказ разбярыце па членах сказа.
- Якія канчаткі назоўнікаў множнага ліку пішуцца пасля цвёрдых зычных, а якія — пасля мяккіх?
- Якія назоўнікі множнага ліку маюць нулявы канчатак у родным склоне?



У назоўнікаў множнага ліку пасля цвёрдых зычных пішуцца канчаткі ***-ы*** (Н. і В. с.), ***-аў, -оў, -эй*** (Р. і В. с.), пасля мяккіх — ***-і*** (Н. і В. с.), ***-яў, -ёў, -ей*** (Р. і В. с.).

Некаторыя назоўнікі множнага ліку ўжываюцца ў родным склоне з нулявым канчаткам: *рук*☐, *ног*☐, *дарог*☐.

**5.** Запішыце загадкі, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў множнага ліку, абазначце склон.

1. На палянцы пасля цёплай ночкі глядзяць у неба блакітныя *(вочкі)*.
2. Ляціць без *(крылы)*, бяжыць без *(ногі)*.
3. Без *(рукі)* малюе, без *(зубы)* кусае.

- Разбярыце па саставе словы *ночкі, вочкі*.
- Якія назоўнікі множнага ліку ў родным склоне маюць нулявы канчатак?
- Якія назоўнікі множнага ліку ў родным склоне маюць канчаткі ***-аў***, ***-оў***?







**6.** Прачытайце верш.

Дзед Мароз рабіў абход
перад Новым годам,
воды рэчак і балот
замуроўваў лёдам.

У дзяцей звіняць канькі
каля самай ёлкі,
на якой, як аганькі,
ззяюць ярка зоркі.

*М. Смагаровіч*

- Запішыце па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў множнага ліку, абазначце склон.



**7.** Прачытайце тэкст. Выпішыце назоўнікі множнага ліку ў назоўным, родным і вінавальным склонах разам з дзеясловамі. Выдзеліце канчаткі.

**Лясныя жахі**

Неяк дзед з Лукашком позна вярталіся з лесу. Сонца ўжо апусцілася за дрэвы. На зямлю ляглі доўгія цені.

Дарога ішла паміж высокіх елак і соснаў. Здавалася, што абапал дарогі павырасталі нейкія высокія чорныя волаты.

Лукашок выйшаў на сярэдзіну дарогі і стараўся не глядзець на жахлівыя постаці ***прыдарожных*** дрэў. *Паводле У. Юрэвіча*

- Выдзеленае слова разбярыце па саставе.

## Давальны, творны і месны склоны

**8.** Разгледзьце табліцу давальнага, творнага і меснага склонаў назоўнікаў множнага ліку. Назавіце канчаткі.

| | | |
|---|---|---|
| Д. | к а м у?<br>ч а м у? | *птушк**ам**, вучн**ям**, мыш**ам***<br>*песн**ям**, гарад**ам**, печ**ам*** |
| Т. | к і м?<br>ч ы м? | *птушк**амі**, вучн**ямі**, мыш**амі***<br>*песн**ямі**, гарад**амі**, печ**амі*** |
| М. | а б к і м?<br>у ч ы м? | *аб птушк**ах**, аб вучн**ях**, аб мыш**ах***<br>*у песн**ях**, у гарад**ах**, у печ**ах*** |

• Якія канчаткі пішуцца пасля цвёрдых зычных, а якія — пасля мяккіх?



У давальным, творным і месным склонах назоўнікаў множнага ліку пасля цвёрдых зычных пішуцца канчаткі ***-ам*** (Д. с.), ***-амі*** (Т. с.), ***-ах*** (М. с.), а пасля мяккіх — ***-ям*** (Д. с.), ***-ямі*** (Т. с.), ***-ях*** (М. с.).

**9.** Запішыце, раскрываючы дужкі.

Расказвала (к а м у?) *(вучні)*, капалі (ч ы м?) *(лапаты)*, падзякаваў (к а м у?) *(сябры)*, трымаць (у ч ы м?) у *(рукі)*, паказвалі (к а м у?) *(госці)*, ехалі (ч ы м?) *(дарогі)*, сустрэўся (з к і м?) з *(сябры)*, плаваюць (п а ч ы м?) па *(акіяны)*, жывуць (у ч ы м?) у *(норы)*.

• Выдзеліце канчаткі назоўнікаў множнага ліку, абазначце склон. (Гл. табліцу на форзацы.)

**10.** Запішыце прыказкі, устаўляючы патрэбныя канчаткі. Вызначце склон назоўнікаў множнага ліку.

1. Хто людз.. не верыць, той і сабе веры не дасць. 2. Паможаш птушк.. зімой — яны табе адплацяць вясной. 3. Спех — кур.. на смех. 4. Хто бацьк.. увагу даруе, той і дзец.. сваім добрую долю гатуе.

• Растлумачце сэнс прыказак.

**11.** Разгледзьце малюнкі. Прыдумайце загаловак і складзіце вуснае апавяданне.






**12.** Прачытайце верш.

Мы з маленства бачым самі,
як пшаніцамі, жытамі,
як аўсамі і ільнамі
аздабляюцца палі.

*К. Кірэенка*

- Запішыце па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў множнага ліку, абазначце склон.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Якую ролю ў сказе яны выконваюць?



**13.** Запішыце тэкст, устаўляючы канчаткі назоўнікаў множнага ліку. Абазначце склон. (Гл. табліцу на форзацы.)

**Сняжынкі**

Нараджаліся сняжынкі ў хмар.. высока над зямлёй.. . Вецер раскідваў сняжынк.. па пал.., па ляс.., па дарог.. . Яны кладліся адна на адну і ўтваралі белую пушыстую коўдру. Людз.. радаваліся, што снег выпаў. Ён засцеражэ зялёныя ўсход.. азіміны ад мароз.. . *Паводле В. Вольскага*

- Знайдзіце сказ з аднароднымі даданымі членамі сказа. Разбярыце яго па членах сказа.
- Як вы разумееце сэнс прыказкі «Многа снегу — многа хлеба»?

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Якія назоўнікі адносяцца да 1, 2, 3-га скланенняў?
2. Як вызначаецца склон назоўніка? Назавіце склонавыя пытанні.
3. Якія склонавыя канчаткі маюць назоўнікі 1-га скланення? (Гл. табліцу на форзацы.)
4. Якія склонавыя канчаткі маюць назоўнікі 2-га скланення? (Гл. табліцу на форзацы.)
5. Якія склонавыя канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення? (Гл. табліцу на форзацы.)

# ПРЫМЕТНІК

## Змяненне прыметнікаў па родах, ліках і склонах

**Успомніце!**

Што абазначаюць прыметнікі? Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца словы: *чырвоны — чырвань — чырванець*.

Падбярыце прыметнікі, якія:

1) называюць прыметы, якасці прадметаў па колеру, форме, памерах, на смак: ... *(снег)*, ... *(дарога)*, ... *(дрэва)*, ... *(яблык)*;

2) даюць ацэнку прадмету: ... *(сябар)*, ... *(надвор'е)*, ... *(настрой)*.

Як змяняюцца прыметнікі ў сказе?

У множным ліку прыметнікі па родах не адрозніваюцца, таму што канчаткі іх аднолькавыя: *шырок**ія** (палі)*, *цёмн**ыя** (лясы)*, *глыбок**ія** рэкі*.

**14.** Запішыце верш. Падкрэсліце прыметнікі з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца.

Маладой бярозцы
навязала восень
жоўтую хусцінку
з белай павуцінкай.

*Я. Пушча*

- Што абазначаюць прыметнікі?
- Да якіх слоў у сказе яны адносяцца?



Прыметнік звычайна адносіцца да назоўнікаў і стаіць у тым жа родзе, ліку і склоне, што і назоўнік.

Прыметнікі змяняюцца па ліках, родах (у адзіночным ліку) і склонах.

**15.** Злучыце прыметнікі з назоўнікамі і запішыце. Устаўце патрэбныя канчаткі прыметнікаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Разумн.. | сын<br>дачка<br>дзіця<br>дзеці | у цёпл.. | дзень<br>вопратцы<br>адзенні<br>рукавіцах |

- Як змяняюцца прыметнікі?
- З атрыманымі словазлучэннямі складзіце і запішыце некалькі сказаў. Разбярыце іх па членах сказа.

**16.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі.

1. У зайца *(доўгі)* вушы і *(кароткі)* хвост.
2. У вожыка *(калючы)* іголкі.
3. У лісіцы *(цёплы)* футра і *(пушысты)* хвост.
4. У ваўка *(востры)* зубы.
5. У *(добры)* чалавека *(разумны)* галава, *(умелы)* рукі і *(чулы)* сэрца.

- Вызначце лік, род (у адзіночным ліку) і склон прыметнікаў.



**17.** Прачытайце сказы. Вызначце лік, род і склон прыметнікаў.

1. Пладавітыя нівы шэпчуць важкім коласам. *(П. Глебка)* 2. Беларускія лясы багаты рознай птушкай, сакавітымі ягадамі, белымі грыбамі. *(Я. Колас)* 3. Павявае з родных даляў цудоўным халадком. *(П. Глебка)*

● Выпішыце прыметнікі з назоўнікамі. Вусна ўстанавіце сувязь прыметніка і назоўніка па пытанні.

**18.** Падбярыце прыметнікі да назоўнікаў па пытаннях і запішыце тэкст.

(Я к а я?) ... зіма пакрыла (я к і м?) ... снегам усё навокал. (Я к і?) ... заяц прыбег у садок. Там раслі (я к і я?) ... дрэўцы. Галінкі іх (я к і я?) ... . Хацеў (я к і?) ... нягоднік абгрызці (я к і я?) ... яблынькі. Ды ўсе дрэўцы стаяць ужо ў (я к і х?) ... шубках. Стаўшы на (я к і я?) ... лапы, заяц пнецца дастаць галінку. Але не можа дацягнуцца, бо сам ён (я к і?) ... і шыя ў яго (я к а я?) ... . *Паводле Я. Брыля*

Словы для даведкі: ***халодная, мяккі, белы, маленькія, малы, тонкія, цёплы, заднія, кароткая.***

● Для чаго выкарыстоўваюцца прыметнікі ў тэкстах?

**19.** Запішыце прыказкі. Устаўце патрэбныя прыметнікі, як патрабуе сэнс. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

1. На ... полі ... пшаніца родзіць.
2. Самы ... хлеб ад ... працы.

3. ... часіну ... тыднем не заменіш.

4. ... сакавік, ... красавік, ... май — будзе добры ўраджай.

Словы для даведкі: *сухі, цёплы, мокры; летні, зімовы; чорны, белы; смачны, шчыры.*

- Растлумачце сэнс прыказак.

**Памятка!**

Каб вызначыць канчатак прыметніка, трэба:

1) паставіць пытанне ад назоўніка да прыметніка: *сябар* (я к і?) ***дарагі, верны;*** *сябры* (я к і я?) ***дарагія, верныя***;

2) па пытанні ўстанавіць канчатак прыметніка:

як**і**? — *вялік**і**, залат**ы***

як**ая**? — *вялік**ая**, залат**ая***

як**ое**? — *вялік**ае**, залат**ое***

як**ія**? — *вялік**ія**, залат**ыя***

**20.** Прачытайце і раскрыйце дужкі. Для чаго ў тэксце выкарыстоўваюцца прыметнікі?

***сёння***

## Наша вёска

*(Прыгожы)* сёння вёска. *(Шырокі)* вуліцы, *(новы)* дамы, *(добры)* людзі — усё гэта *(сучасны)* вёска. Над *(сялянскі)* хатамі развесілі свае гал-

лё *(высокі)* ліпы і клёны. У садах спеюць *(духмяны)* яблыкі, *(салодкі)* грушы. За вёскай раскінуўся *(шырокі)* луг, а там за лугам пачынаецца *(сасновы)* лес. *Паводле П. Кавалёва*

- Запішыце тэкст. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



**21.** Запішыце тэкст, устаўляючы прыметнікі. Выдзеліце іх канчаткі.

На ... паляне рос ... дуб. ... дрэва горда ўзвышалася над лесам. ... карані трымалі яго на зямлі. ... кара аберагала ад ... вятроў, ... сонца і ... насякомых.

У ... веццi рабілі свае гнёзды ... птушкі. Паласавацца жалудамі прыходзілі ... жывёлы. *Паводле Т. Хадкевіча*

Словы для даведкі: *лясны, стары, дзікі, магутны, высокі, тоўсты, халодны, гарачы, шкодны, густы, розны.*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**22.** Прачытайце тэкст. Пастаўце пытанні ад назоўнікаў да прыметнікаў.

### Куды нясуць свае воды беларускія рэкі?

Беларуская зямля, можна сказаць, сочыцца чыстай, празрыстай вадою. Па яе неабсяжных прасторах параскіданы блакітныя люстэркі малых і вялі-

кіх азёр. Сцюдзёныя крыніцы, спакойныя рачулкі і магутныя рэкі пранізваюць усю тэрыторыю Беларусі.

Адны рэкі ўпадаюць у Чорнае мора, другія — у Балтыйскае. У Балтыйскае мора нясуць свае чыстыя воды спакойны Нёман, Заходняя Дзвіна, імклівы Буг. У Чорнае мора цякуць шырокая Прыпяць, магутны Дняпро, ціхая Бярэзіна, прыгожы Сож. А колькі дробных рэчак? Бягуць яны да буйных рэк. *Паводле У. Караткевіча*

● Выпішыце прыметнікі з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Вызначце род, лік і склон прыметнікаў.

У з о р: *зямля* (я к а я?) *беларуская (ж. р., адз. л., Н. с.), ...*

**23.** Разгледзьце табліцу змянення прыметнікаў адзіночнага ліку па склонах.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к і?<br>я к а я?<br>я к о е? | *родн**ы*** (сын, дом)<br>*родн**ая*** (дачка)<br>*родн**ае*** (слова) |
| Р. | я к о г а?<br>я к о й?<br>я к о г а? | *родн**ага*** (сына, дома)<br>*родн**ай*** (дачкі)<br>*родн**ага*** (слова) |
| Д. | я к о м у?<br>я к о й?<br>я к о м у? | *родн**аму*** (сыну, дому)<br>*родн**ай*** (дачцэ)<br>*родн**аму*** (слову) |

| | | |
|---|---|---|
| В. | я к о г а?<br>я к у ю?<br>я к о е?<br>я к і? | *родн**ага*** (сына, дома)<br>*родн**ую*** (дачку)<br>*родн***ае** (слова)<br>*родн**ы*** (дом) |
| Т. | я к і м?<br>я к о й?<br>я к і м? | *родн**ым*** (сынам, домам)<br>*родн**ай*** (дачкой)<br>*родн**ым*** (словам) |
| М. | п р ы я к і м?<br>п р ы я к о й?<br>а б я к і м? | *пры родн**ым*** (сыне, доме)<br>*пры родн**ай*** (дачцэ)<br>*аб родн**ым*** (слове) |

● Параўнайце канчаткі прыметнікаў у назоўным, родным і вінавальным склонах. Калі канчаткі прыметнікаў адзіночнага ліку супадаюць у назоўным і вінавальным склонах? Калі канчаткі прыметнікаў адзіночнага ліку супадаюць у родным і вінавальным склонах?

● Складзіце і запішыце сказы з прыметнікамі ў назоўным, родным і вінавальным склонах.

**24.** Разгледзьце табліцу змянення прыметнікаў множнага ліку па склонах.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к і я? | *родн**ыя*** (сыны, дамы)<br>*родн**ыя*** (дочкі)<br>*родн**ыя*** (словы) |
| Р. | я к і х? | *родн**ых*** (сыноў, дамоў)<br>*родн**ых*** (дачок)<br>*родн**ых*** (слоў) |

| | | |
|---|---|---|
| Д. | я к і м? | *родн***ым** (сынам, домам)<br>*родн***ым** (дочкам)<br>*родн***ым** (словам) |
| В. | я к і х?<br><br>я к і я? | *родн***ых** (сыноў)<br>*родн***ых** (дачок)<br>*родн***ыя** (дамы)<br>*родн***ыя** (словы) |
| Т. | я к і м і? | *родн***ымі** (сынамі, дамамі)<br>*родн***ымі** (дочкамі)<br>*родн***ымі** (словамі) |
| М. | п р ы я к і х?<br>а б я к і х? | *пры родн***ых** (сынах, дамах)<br>*пры родн***ых** (дочках)<br>*аб родн***ых** (словах) |

• Параўнайце канчаткі прыметнікаў у назоўным, родным і вінавальным склонах. Калі канчаткі прыметнікаў множнага ліку супадаюць у назоўным і вінавальным склонах? Калі канчаткі прыметнікаў множнага ліку супадаюць у родным і вінавальным склонах?

• Складзіце і запішыце сказы з прыметнікамі (на выбар) у назоўным, родным і вінавальным склонах.

**25.** Праскланяйце прыметнікі з назоўнікамі.

Н. *нов***ы** *дом*
*нов***ая** *школа*
*нов***ае** *адзенне*

Р. ...

● Запішыце. Выдзеліце склонавыя канчаткі прыметнікаў.

● Складзіце і запішыце 2—3 сказы з адным са словазлучэнняў. Вызначце галоўныя члены сказа.

**Памятка!**

**Для таго каб вызначыць склон прыметнікаў у сказе, трэба:**

- **знайсці назоўнік, з якім звязаны прыметнік;**
- **вызначыць склон назоўніка;**
- **ад назоўніка паставіць пытанне да прыметніка і па склоне назоўніка вызначыць склон прыметніка.**

У з о р: *Я песні спяваю роднаму краю.*

*Спяваю* (ч а м у?) ***краю*** — Д. с.; *краю* (я к о м у?) ***роднаму*** — Д. с.



**26.** Прачытайце. Вызначце род, лік і склон прыметнікаў.

Вечна я ўдзячны жытняму хлебу,
чыстай вадзе з невялічкай крыніцы,
лесу зялёнаму, сіняму небу,
светлай рачулцы, што ў полі бруіцца*.

Людзям з адкрытай і шчырай душою,
з кім давялося ў жыцці мне сустрэцца,
краю, што роднай завём мы зямлёю,
што Беларуссю так люба завецца!

*П. Броўка*

● Спішыце першы слупок верша. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

● Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

# Змяненне прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду

## Назоўны і вінавальны склоны

**27.** Разгледзьце табліцу назоўнага і вінавальнага склонаў прыметнікаў у адзіночным ліку.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к і?<br>я к о е? | *спел**ы*** (колас), *сін**і*** (васілёк), *добр**ы*** (чалавек)<br>*спел**ае*** (жыта), *дараг**ое*** (слова), *сін**яе*** (неба) |
| В. | я к і?<br>я к о е?<br>я к о г а? | *спел**ы*** (колас), *сін**і*** (васілёк), *добр**ы*** (чалавек)<br>*спел**ае*** (жыта), *дараг**ое*** (слова), *сін**яе*** (неба)<br>*добр**ага*** (чалавека), *дараг**ога*** (сына) |

● Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах?

● У якіх прыметніках канчаткі назоўнага і вінавальнага склонаў супадаюць?

● Якія канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны? На мяккі зычны?



Прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным і вінавальным склонах маюць канчаткі *-ы* (пасля цвёрдых зычных), *-і* (пасля мяккіх зычных і *г, к, х*).

Прыметнікі ніякага роду ўжываюцца з канчаткамі *-ое* (пад націскам), *-ае, -яе* (не пад націскам).



Прыметнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць прыметы жывых істот, у вінавальным склоне маюць канчаткі *-ога, -ага, -яга*.

**28.** Прачытайце сказы. Разбярыце іх па членах сказа. Вызначце склон прыметнікаў.

1. Квітнее вясною малады сад. Школьнікі даглядаюць малады сад. Тата запрагае маладога каня.
2. Усталявалася цёплае надвор’е. Вясна прынесла цёплае надвор’е.
3. Сіняе неба пакрывалася хмаркамі. Хмаркі пакрывалі сіняе неба.
4. Старое дрэва расло ля дарогі. Птушкі аблюбавалі старое дрэва. Дзеці любілі старога дзеда.

• Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі, падкрэсліце аснову прыметнікаў. Абазначце ў прыметніках націск.

**29.** Запішыце тэкст, дапісваючы канчаткі прыметнікаў. Абазначце род, лік і склон прыметнікаў.

**цьмя́ны**

### Колеры Белавежы

Чорн**ы** *(адз. л., м. р., Н. с.)* колер. Цьмян.. сонечн.. цень Белавежскай пушчы. Зялён.. колер. Гэта дзіўн.. старажытн.. лес.

Над пушчай блакітн.. неба. Сін.. колер пакрывае чыст.. возера. Карычневы колер. Гэта ты бачыш сярод дрэў высакародн.. аленя або магутн.. зубра.

Але яшчэ і залат.. колер. Гэта мясцовыя людзі. Яны берагуць Белавежу для нашай гордасці і славы. *Паводле У. Караткевіча*



**30.** Прачытайце і адгадайце загадкі.

1. Я ружов.., я вясёл..,
не гаротн..:
сад зялён.. —
дом мой родн..,
яблыня —
мая сям'я.
Хто я?

*М. Чарняўскі*





2. Люстэрка чыст.., глыбок..,
сін.. неба ў сабе адбівае,
смагу здымае.



3. Чырвон.. цельца, каменн.. сэрца,
салодкая на смак.
А завецца як?

4. Поле бел.., неаран..,
зерне дробн.., чорн.. .
Хто ўмее, той пасее.



● Выпішыце прыметнікі з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Устаўце канчаткі.
● Вызначце лік, род і склон прыметнікаў.

## Родны склон

**31.** Разгледзьце табліцу. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне?

| | | |
|---|---|---|
| Р. | я к о г а? | *стар**ога*** (дзеда), *даўн**яга*** (сябра) *залат**ога*** (коласа), *летн**яга*** (дня), *родн**ага*** (краю) |
| Р.<br>В. | я к о г а?<br>я к і? | *стар**ога*** (дзеда), *даўн**яга*** (сябра) *залат**ы*** (колас), *летн**і*** (дзень), *родн**ы*** (край) |

● У якіх выпадках канчаткі роднага і вінавальнага склонаў прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду супадаюць?
● Якія канчаткі пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны? Пасля асновы на мяккі?



Канчатак ***-ога*** прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне пішацца толькі пад націскам. Не пад націскам пішуцца канчаткі ***-ага, -яга***.

Пасля асновы на цвёрды зычны пішуцца канчаткі ***-ага, -ога***, а пасля асновы на мяккі — ***-яга***.

**32.** Запішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце націск у прыметніках, выдзеліце канчаткі. На якія зычныя заканчваюцца асновы прыметнікаў — цвёрдыя ці мяккія?

Спыніўся каля *(высокае дрэва)*, рыхтаваўся да *(школьнае свята)*, пакаштаваў *(жытні хлеб)*, злавіў *(вялікі шчупак)*, выйшаў з *(цёмны лес)*, пад'ехаў да *(новы дом)*, спужаўся *(злы воўк)*.

● Складзіце і запішыце два сказы са словазлучэннямі. Разбярыце іх па членах сказа.

Памятка!

Адрозніваць родны і вінавальны склоны прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду можна падстаўляючы назоўнікі, якія абазначаюць нежывыя прадметы: *застаўся без* (к а г о? ч а г о?) *добр**ага** каня (добр**ага** ўраджаю)* — Р. с., *сеў на* (к а г о? ш т о?) *добр**ага** каня (добр**ы** веласіпед)* — В. с.

**33.** Запішыце сказы. Устаўце канчаткі прыметнікаў роднага склону.

1. Пасыпаўся сне***г*** мільёнамі камячкоў дробн.. мякк.. пуху. *(Я. Колас)* 2. Па ўсёй ха***ц***е разносіўся па***х*** свеж.. ржан.. хлеба. *(Я. Колас)* 3. З***я***лёны домік дарожн.. майстра стаіць каля самай шашы. *(Я. Брыль)* 4. Луста жытн.. хлеба, брат, нялёгка дастаецца. *(Я. Колас)* 5. Куды б цябе ні завяла далёкая дарога, не забывай ніколі ты бацькоўск.. парога. *(П. Броўка)* 6. Вада паволі агаляла к***а***рэнне стар.. дуба. *(Я. Колас)*

- Які канчатак прыметнікаў роднага склону пішацца пад націскам, а які — не пад націскам?
- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**34.** Складзіце са слоў сказы. Выдзеленыя словы ўжывайце ў родным склоне.

з, Радзіма, ***дом, родны,*** пачынаецца
усё, чакае, ***цёплае, сонейка,*** жывое, на, зямлі
для, ***верны, сябар, лепшы, кавалак,*** не шкадуй
не забывай, ***слова, бацькава***
з, ***ручаёк, маленькі,*** пачынаецца, вялікая, рака

- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў роднага склону.
- Выпішыце словы, якія маюць супрацьлеглае значэнне.
- Выпішыце аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх корань.



**35.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі.

### Дарагія пачуцці

Жыццё пачынаецца з *(залаты)* маленства. І ўсё сваё жыццё шукае чалавек *(вялікі)* шчасця. І колькі ні жыве чалавек — заўсёды ён адчувае цеплыню *(добры)* слова, падтрымку *(верны)* сябра, надзею *(заўтрашні)* дня. Гэтыя пачуцці падтрымліваюць жыццё. *Паводле К. Кірэенкі*

- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў роднага склону.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- Якая асноўная думка гэтага тэксту?

## Давальны склон

**36.** Разгледзьце табліцу. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне?

| | | |
|---|---|---|
| Д. | я к о м у? | *родн**аму*** (брату)<br>*дараг**ому*** (чалавеку)<br>*летн**яму*** (дню)<br>*сін**яму*** (небу) |

- Які канчатак давальнага склону прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду пішацца пад націскам, а які — не пад націскам?
- Які канчатак давальнага склону прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду пішацца пасля асновы на мяккі зычны, а які — пасля асновы на цвёрды?

**37.** Пастаўце прыметнікі ў давальным склоне і запішыце.

Радуйся *(летняе)* сонцу, удзячны *(добрае)* слову, адпавядае *(нізкі)* узроўню, дапамог *(верны)* сябру, напісаў *(знаёмы)* чалавеку, падрыхтавалі к *(школьнае)* святу, ішлі насустрач *(халодны)* ветру, уручылі *(смелы)* салдату.

- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.
- Пастаўце націск у прыметніках. На які зычны заканчваюцца асновы прыметнікаў — цвёрды ці мяккі?
- Складзіце і запішыце 2—3 сказы, разбярыце іх па членах сказа.



У давальным склоне прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду не пад націскам пішуцца канчаткі ***-аму, -яму***. Канчатак ***-ому*** пішацца пад націскам.

Пасля асновы на мяккі зычны пішацца канчатак ***-яму***, а пасля асновы на цвёрды — ***-аму, -ому***.

**38.** Запішыце па памяці.

***Грышка***, хлопчык невялічкі,
выйшаў у поле з дому.
Люба там каля ***крынічкі***
хлопчыку малому.

*Я. Колас*

● Выдзеліце канчатак прыметніка мужчынскага роду ў давальным склоне.

● Выдзеленыя словы разбярыце па саставе.

**39.** Спішыце. Устаўце канчаткі прыметнікаў, абазначце склон.

1. За мову, што люблю з маленства, я ўдзячна родн.. народу. *(Э. Агняцвет)* 2. Людск.. воку ўсё відаць. *(Прыказка)* 3. Не сядзіцца ў хаце хлопчыку мал.. . *(Я. Колас)* 4. Добр.. чалавеку жыццё ў радасць, а зл.. — адно гора. *(Прыказка)*



**40.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Устаўце прапушчаныя літары ў словах і растлумачце іх напісанне.

### Лясны спявак

Пачыналася в..сна. Надвор'е мянялася на в..чах. На змену *(халодны вецер)* прылятаў лё..кі, лагодны* ветрык. Белы сне.. пераўтвараўся ў *(імклівы ручаёк)*.

Засп..ваў вясёлы салавейка. Ад яго песні павес..леў стары лес. Мы ўдзячны *(лясны спявак)* за цудоўны гола.., які абуджае прыроду. Спявае звонкі салавей песню в..сны. *Паводле Я. Коласа*

● Вызначце склон прыметнікаў, выдзеліце канчаткі.

## Творны і месны склоны

**41.** Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным і месным склонах?

| | | |
|---|---|---|
| Т. | я к і м? | *высок***ім** (дубам)<br>*зялён***ым** (лісцем) |
| М. | у я к і м? | *у нов***ым** (доме)<br>*у сін***ім** (небе) |

- Як адрозніваць творны і месны склоны прыметнікаў?



У творным і месным склонах прыметнікі мужчынскага і ніякага роду маюць аднолькавыя канчаткі ***-ым*** (пасля асновы на цвёрды зычны), ***-ім*** (пасля асновы на мяккі зычны).

Адрозніваць творны і месны склоны прыметнікаў трэба па назоўніках, да якіх яны адносяцца.

**42.** Запішыце. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў. Вызначце склон прыметнікаў.

Жыве ў дрымучым лесе, напаіў свежым малаком, сустрэўся з добрым чалавекам, кружыцца ў сінім небе, пакрылася мяккім мохам, грэўся на цёплым сонцы, адпачывалі на лясным возеры, ехаў на гнядым* кані, пасуцца на зялёным лузе, накарміў пахучым сенам, пачаставаў свежым хлебам.

- Як трэба адрозніваць прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным і месным склонах?
- Складзіце і запішыце некалькі сказаў з дадзенымі спалучэннямі слоў, разбярыце іх па членах сказа.

**43.** Прачытайце. Выпішыце прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Устаўце патрэбныя канчаткі прыметнікаў.

Зялён.. луг, як скінуць вокам,
абрусам пышн.. і широк..
абапал Нёмна рассцілаўся.
І ззяў на сонцы ў пералівах
пяшчотн.. тонам. А на нівах
пад лёгк.. ветрам жыта гнецца
і людзям радасна смяецца
сваім прыемн.., міл.. спевам.
Так гнуцца, гойдаюцца травы,
як пройме ветрык іх ласкав..,
і пойдуць хвалі травяныя
з прыемн.. спевам чарадою,
зашэпчуць краскі між сабою.

*Я. Колас*

- Вызначце склон прыметнікаў.
- Растлумачце выраз *скінуць вокам*.

**44.** Пастаўце прыметнікі з назоўнікамі ў творным або месным склоне і запішыце сказы.

1. Пахла зямля *(прэлае зелле)*, *(сухое сена)*, *(гнілое балота)*. *(К. Чорны)* 2. Нікла жыццё ў *(шумны*

*лес),* агаляўся твар зямлі, і ляцелі ў паднябессі са *(звонкі крык)* жураўлі. *(Я. Колас)* 3. *(Яснае, залатое ўбранне)* ззяла сонца над зямлёй. *(У. Дамашэвіч)* 4. Позняе летаназаўсёды заснула на *(вясёлае ржышча*)*. *(К. Чорны)* 5. Над *(ржаное поле)* і *(зялёны лес)* у поўнай сваёй красе адыходзіў чысты летні дзень. *(В. Каваль)*

- Абазначце склон прыметнікаў, выдзеліце канчаткі.



**45.** Прачытайце тэкст. Вызначце род, лік і склон прыметнікаў.

**Родны край**

У добр.. сэрцы заўсёды затоена светлая думка аб родн.. краі. Ён вечна свеціць ласкав.. сонцам, звініць шчыр.. словам. Ласкав.. пачуццём прасякнуты ўспаміны аб дараг.. бацькоўск.. доме. Высок.. гонарам для кожнага чалавека з'яўляецца абавязак любві і пашаны да ўсяго таго, што завецца Радзімай. *Паводле П. Прыходзькі*

- Выпішыце прыметнікі з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Дапішыце канчаткі.

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Назавіце склонавыя пытанні прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду.
2. Ад чаго залежыць напісанне склонавых канчаткаў прыметнікаў?

## Змяненне прыметнікаў жаночага роду

**46.** Якія склонавыя канчаткі маюць прыметнікі жаночага роду? Параўнайце іх.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к а я? | *халодн**ая** ранішн**яя*** (раса)<br>*стар**ая*** (хата) |
| Р. | я к о й? | *халодн**ай** ранішн**яй*** (расы)<br>*стар**ой*** (хаты) |
| Д. | я к о й? | *халодн**ай** ранішн**яй*** (расе)<br>*стар**ой*** (хаце) |
| В. | я к у ю? | *халодн**ую** ранішн**юю*** (расу)<br>*стар**ую*** (хату) |
| Т. | я к о й (-о ю)? | *халодн**ай** **(-аю)** ранішн**яй** **(-яю)***<br>(расой (-ою))<br>*стар**ой** **(-ою)*** (хатай (-аю)) |
| М. | н а я к о й?<br>у я к о й? | *на халодн**ай** ранішн**яй** (расе)*<br>*у стар**ой*** (хаце) |

● У якіх склонах прыметнікі жаночага роду адказваюць на адны і тыя ж пытанні і маюць аднолькавыя канчаткі?

**47.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыказак.

1. Сей у добрую пару — збярэш хлеба гару. 2. У добрай гаспадыні ёсць сала і масла ў скрыні. 3. Ад шчырай працы мазалі на руках. 4. Да чыстай

крыніцы сцежка ўтоптана. 5. Хадзі простаю сцежкаю, то не заблудзіш.

● Спішыце. Вызначце склон прыметнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі.

**48.** Праскланяйце прыметнікі з назоўнікам. Выдзеліце канчаткі.

Н. (я к а я?) *доўг**ая** сін**яя** (стужка)*
Р. ...

● Складзіце і запішыце тры сказы са склонавымі формамі прыметнікаў і назоўніка.



**49.** Запішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя канчаткі прыметнікаў. Вызначце склон прыметнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі.

### Шэрая птушка

Жыла-была шэр.. птушка. Кожны вечар яна прылятала на бераг лясн.. ракі, дзе расла стар.. вярба. І пачыналася чароўн.. песня. Ласкав.. вясёл.. мелодыя пераліваецца серабрыст.. хваляй у ззянні блакітн.. ракі. Песню маленьк.. шэр.. птушкі ўсе любяць слухаць. Завуць гэту птушку — салавей. *Паводле А. Кобец-Філімонавай*

● Чаму так гавораць: «Салаўём заліваецца»?
● Як вы разумееце сэнс прыказкі *Салаўя песнямі не кормяць*?

## Назоўны склон

**50.** Якія канчаткі маюць прыметнікі жаночага роду ў назоўным склоне?

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к а я? | *цёпл**ая** летн**яя*** (ноч)<br>*халодн**ая** зімн**яя*** (ноч) |

● Складзіце са словазлучэннямі сказы і запішыце. Разбярыце іх па членах сказа.



**Прыметнікі жаночага роду ў назоўным склоне маюць канчаткі *-ая* (пасля цвёрдых зычных), *-яя* (пасля мяккіх зычных).**

**51.** Пастаўце пытанні ад назоўніка да прыметніка і запішыце. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

Вясёлая песня, халодная вада, добрая мама, цёмная ноч, ранішняя зорка, сіняя стужка, цікавая кніга, суседняя вёска, верхняя паліца, дружная сям'я.

У з о р: *песня* (я к а я?) *вясёл**ая***, ...

● Які канчатак пішацца ў прыметніках жаночага роду пасля асновы на цвёрды зычны, а які — пасля асновы на мяккі?

● Складзіце і запішыце 2—3 сказы, разбярыце іх па членах сказа.

**52.** Запішыце загадку. Устаўце канчаткі прыметнікаў.

Бел.. ніва, чорн.. жыта.
Хто яго збірае,
той розум набывае.



- Вызначце род і склон прыметнікаў, выдзеліце канчаткі.
- Параўнайце канчаткі прыметнікаў жаночага і ніякага роду ў назоўным склоне.

**Памятка!**

У назоўным склоне канчаткі прыметнікаў жаночага роду трэба адрозніваць ад канчаткаў прыметнікаў ніякага роду: (я к а я?) *шырок**ая***, *сін**яя*** (ж. р.) — (я к о е?) *шырок**ае***, *сін**яе*** (н. р.).

**53.** Запішыце прыказкі, раскрываючы дужкі.

1. *(Добры)* слова чуваць далёка. 2. *(Добры)* душа ўсё прымае. 3. *(Шчыры)* сэрца чужы боль чуе. 4. *(Шчыры)* праца — крыніца багацця. 5. *(Вялікі)* дзіця — *(вялікі)* турбота.

- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў, вызначце род.



**54.** Прачытайце. Вызначце род і склон прыметнікаў.

Сярод лесу было невялікае балотца. Густая высокая трава пакрывала яго ад краю да краю. У ба-

лотцы заўсёды ціха. Ціхае, спакойнае балотца прываблівае да сябе жывёл і птушак. Л..сная жывёліна прыходзіць сюды ў пошуках в..ды і спакою. Маленькая птушка часам зал..тае, каб пажывіцца насякомымі. Жывая істота заўсёды бывае тут. *Паводле З. Бяспалага*

- Спішыце. Устаўце ў словах прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.
- Абазначце склон, выдзеліце канчаткі прыметнікаў жаночага і ніякага роду.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

## Родны, давальны, творны і месны склоны

**55.** На якія пытанні адказваюць прыметнікі жаночага роду ў родным, давальным, творным і месным склонах? Якія канчаткі яны маюць?

| | | |
|---|---|---|
| Р. | якой? | *цёпл**ай** сух**ой** ранн**яй*** (вясны) |
| Д. | якой? | *цёпл**ай** сух**ой** ранн**яй*** (вясне) |
| Т. | якой (-ою)? | *цёпл**ай** (-аю) сух**ой** (-ою) ранн**яй** (-яю)* (вясной (-ою)) |
| М. | аб якой? | *аб цёпл**ай** сух**ой** ранн**яй*** (вясне) |



Прыметнікі жаночага роду ў родным, давальным, творным і месным склонах маюць аднолькавыя канчаткі ***-ай, -ой, -яй***.

**56.** Прачытайце. Пастаўце словы ў дужках у патрэбным склоне і запішыце. Склон абазначце.

Расце каля *(новая хата)*, купаецца ў *(цёплая вада)*, пачаставаў *(смачная цукерка)*, падарыў *(дарагая мама)*, дапамог *(старэнькая бабуля)*, схаваўся ў *(густая трава)*, любаваўся *(прыгожая кветка)*, жыву ў *(суседняя вёска)*, адпачыў перад *(дальняя дарога)*, напісала *(дарагая сяброўка)*, цяжка жыць без *(сяброўская падтрымка)*.

- Выдзеліце канчаткі і асновы прыметнікаў.
- Які канчатак прыметнікаў жаночага роду пішацца пад націскам у родным, давальным, творным і месным склонах, а якія — не пад націскам?
- Якія канчаткі пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны, а які — пасля асновы на мяккі?

**57.** Запішыце па памяці.

Дарогай вольнаю, зорнаю,
шырокаю, прасторнаю
на свята ўсенароднае
к нам з песняю паходнаю
ідзе вясёлы май.

*Я. Колас*

- Вызначце склон прыметнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Як яны звязаны паміж сабой?

**58.** Прачытайце. Прыметнікі з назоўнікамі, што ў дужках, пастаўце ў патрэбным склоне. Карыстайцеся табліцай на форзацы.

***тэлегра́ма***

1. Алесь тужыў па *(свежая баразна)*. *(Я. Брыль)* 2. З-пад *(аксамітная* пурпуровая* хмарка)* ўзышло сонейка, гарачае і бліскучае. *(З. Бядуля)* 3. Забалелі ў вавёрачкі зубкі — не можа раскусіць *(арэхавая шкарлупка)*. *(В. Вітка)* 4. Як прыйшла тэлеграма, што баляць у вас зубкі, не спалі мы цэлыя суткі, не зналі *(шчаслівая мінутка)*. *(В. Вітка)*

- Запішыце сказы і вызначце склон прыметнікаў.
- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў адзіночным ліку.
- Разбярыце па саставе словы *арэхавая, хмарка.*



**59.** Запішыце, устаўляючы канчаткі прыметнікаў.

Іду жытнёв.. сцежкаю,
мне звоняць жаўрукі,
блакітн.. ўсмешкаю
вітаюць васількі.

*Н. Галіноўская*

- Вызначце склон прыметнікаў жаночага роду.

## Вінавальны і творны склоны

**60.** Прачытайце табліцу. Параўнайце канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў вінавальным і творным склонах. У чым іх адрозненне?

| | | |
|---|---|---|
| В. | я к у ю? | *цёпл**ую** летн**юю*** (ноч) |
| Т. | я к о й (-о ю)? | *цёпл**ай** (-**аю**) летн**яй** (-**яю**)* (ноччу) |

● Якія канчаткі маюць прыметнікі жаночага роду ў вінавальным і творным склонах? На якія пытанні яны адказваюць?



Прыметнікі жаночага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ую*** пасля цвёрдых зычных, ***-юю*** — пасля мяккіх.

Прыметнікі ў творным склоне маюць канчаткі ***-ой (-ою), -ай (-аю)*** пасля асновы на цвёрды зычны, ***-яй (-яю)*** — пасля асновы на мяккі.

**61.** Прачытайце. Пастаўце пытанні ад назоўнікаў жаночага роду да прыметнікаў. Вызначце склон прыметнікаў.

1. Абодва схілы небакраю гараць (...) вячэрн.. зарой. *(П. Прыходзька)* 2. Над зямлёю (...) сонн.. зазвінелі жаўрукі. *(М. Сазончык)* 3. Добра за вёс-

кай у лузе адпачываецца ўлетку. Ціха іду я і баюся стаць на (...) пчалін.. кветку. *(М. Сазончык)*

• Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў вінавальным і творным склонах.

**62.** Прачытайце. Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку.

Праз родную мову мы пазнаём мацярынскую ласку, шчырую дабрыню і жыццё наогул. Кожнаму чалавеку трэба заўсёды карыстацца роднай мовай. Вывучайце беларускую літаратуру, і вы пазнаеце свой народ, яго гісторыю, яго багатую вусную творчасць. Душэўнай шчырасцю і палымянай цеплынёй сэрца напоўнена родная беларуская мова. *Паводле Я. Коласа*

• Вызначце склон прыметнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі.

Рм **63.** Раскажыце па плане пра кнігу, якую вы прачыталі.

План

1. Як называецца кніга і хто яе аўтар?
2. Пра што расказваецца ў кнізе?
3. Ці спадабалася вам кніга і чаму?
4. Якія кнігі вы любіце чытаць?

• Выкарыстайце, калі гэта неабходна, прыметнікі з назоўнікамі: *цікавая кніга, любімы пісьменнік, родная мова, беларуская зямля, дарагая радзіма, верныя сяб-*

*ры, цудоўная прырода, лірычныя вершы, цікавыя апавяданні, чарадзейныя казкі.*



**64.** Прачытайце тэкст. Вызначце лік, род і склон прыметнікаў.

### У свеце слоў і выразаў

Адкуль паходзяць словы і выразы? Чаму, напрыклад, гаворым «чырвоны радок»? Як узнік гэты выраз?

Разгорнем старажытную кнігу. Першая літара ў ёй напісана чырвоным чарнілам. Яна вялікая і прыгажэйшая за астатнія. З гэтай чырвонай літары пачынаецца кніга. Адсюль і пайшоў выраз «чырвоны радок». Блізкімі па значэнні да гэтага выразу з'яўляюцца словы «абзац» і «рубрыка». Слова «абзац» запазычанае з нямецкай мовы і мае значэнне «ўступ». «Рубрыка» на лацінскай мове азначае «чырвоны». *Паводле В. Віткі*



- Выпішыце прыметнікі з назоўнікамі, выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Назавіце склонавыя пытанні прыметнікаў жаночага роду.
2. Якія склонавыя канчаткі маюць прыметнікі жаночага роду? (Гл. табліцу на форзацы.)

## Змяненне прыметнікаў множнага ліку

**65.** Разгледзьце табліцу змянення па склонах прыметнікаў множнага ліку. Параўнайце канчаткі розных склонаў.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | я к і я? | *добр**ыя** дараг**ія*** (сябры)<br>*добр**ыя** дараг**ія*** (словы) |
| Р. | я к і х? | *добр**ых** дараг**іх*** (сяброў)<br>*добр**ых** дараг**іх*** (слоў) |
| Д. | я к і м? | *добр**ым** дараг**ім*** (сябрам)<br>*добр**ым** дараг**ім*** (словам) |
| В. | я к і х?<br>я к і я? | *добр**ых** дараг**іх*** (сяброў)<br>*добр**ыя** дараг**ія*** (словы) |
| Т. | я к і м і? | *добр**ымі** дараг**імі*** (сябрамі)<br>*добр**ымі** дараг**імі*** (словамі) |
| М. | а б я к і х? | *аб добр**ых** дараг**іх*** (сябрах)<br>*аб добр**ых** дараг**іх*** (словах) |

- Якія канчаткі маюць прыметнікі ў множным ліку?
- У якіх склонах прыметнікі множнага ліку маюць аднолькавыя канчаткі?
- Якія канчаткі прыметнікаў множнага ліку ў вінавальным склоне?

## Назоўны і вінавальны склоны

**66.** Якія канчаткі маюць прыметнікі множнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах?

| | | |
|---|---|---|
| Н. і В. | я к і я? | *бел**ыя** тонк**ія*** (бярозы) |
| В. | я к і х? | *шчыр**ых** дараг**іх*** (людзей) |

- Калі канчаткі прыметнікаў множнага ліку супадаюць у назоўным і вінавальным склонах, а калі яны адрозніваюцца?
- Якія канчаткі пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны? На мяккі зычны?



Канчаткі прыметнікаў множнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах могуць супадаць і адрознівацца. Калі прыметнік адносіцца да назоўніка, які абазначае нежывы прадмет і адказвае на пытанне ш т о?, то канчаткі назоўнага і вінавальнага склонаў супадаюць: *гэта* (я к і я?) *дараг**ія** мясціны* (Н. с.) — *бачу* (я к і я?) *дараг**ія** мясціны* (В. с.).

Калі прыметнік адносіцца да назоўніка, які абазначае жывую істоту і адказвае на пытанні х т о? к а г о?, то канчаткі ў назоўным і вінавальным склонах розныя: *гэта* (я к і я?) *дараг**ія** сябры* (Н. с.) — *бачу* (я к і х?) *дараг**іх** сяброў* (В. с.).

**67.** Запішыце сказы. У прыметніках выдзеліце канчаткі. Вызначце склон прыметнікаў множнага ліку.

1. Вясной зазелянелі маладыя дрэўцы. Дзеці садзяць маладыя дрэўцы.
2. Зацвілі сінія пралескі. Вясна раскідала па ўскрайку лесу сінія пралескі.
3. Ляцяць пералётныя птушкі. Дзеці сустракаюць пералётных птушак.

• Разбярыце па членах сказа.



У назоўным і вінавальным склонах прыметнікаў пасля асновы на цвёрды зычны пішуцца канчаткі ***-ыя, -ых*** (*халодн****ыя****, халодн****ых***), пасля асновы на мяккі — ***-ія, -іх*** (*летн****ія****, летн****іх***).

**68.** Прачытайце. Знайдзіце прыметнікі ў множным ліку і вызначце іх склон.

Нават самыя мал.. дзеці любяць цікав.. кнігі. Беларуск.. пісьменнікі і паэты пішуць для іх вясёл.. вершы, займальн.. апавяданні, чароўн.. казкі.

У кожнага з вас дома ёсць, напэўна, беларуск.. кнігі, якія вы прачыталі. Але гэтага мала. Вас чакаюць дзіцяч.. бібліятэкі, чытальн.. залы. Юн.. чытачы заўсёды знойдуць у іх любім.. творы. *Паводле У. Дубоўкі*

• Запішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя канчаткі прыметнікаў.

● Знайдзіце сказ, які адпавядае схеме

- - - - - ══════ ~~~~~~ ______, ~~~~~~ ______.

і разбярыце яго па членах сказа.



**69.** Прачытайце тэкст і вусна ўстанавіце сувязь прыметнікаў з назоўнікамі.

**Ажылі *(цёмны)* бары. Заспявалі *(вясёлы)* песні птушкі.** *(Малады)* шышкі на елках пачырванелі, заіскрыліся, як у пеўняў грабеньчыкі. *(Празрысты вадзяны)* іскрынкі ўпалі на траву. Яна ад радасці паднялася і заззяла яркімі фарбамі. *(Свежы мядовы)* пахі напаўняюць паветра. Сонейка шле на зямлю *(цёплы)* промні. Мабыць, з усяго гэтага пачынаецца вясна. *Паводле А. Бялевіча*

● Выпішыце прыметнікі множнага ліку разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Абазначце склон і выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

● У выдзеленых сказах назавіце дзейнікі і выказнікі, вусна пастаўце пытанні да дадзеных членаў сказа.

## Родны, месны і вінавальны склоны

**70.** Разгледзьце табліцу. Параўнайце канчаткі прыметнікаў множнага ліку ў родным, месным і вінавальным склонах.

| | | |
|---|---|---|
| Р. | я к і х? | *невядом**ых** далёк**іх*** (краін) |

| | | |
|---|---|---|
| В. | я к і х? | *вернных дарагіх* (сяброў) |

| | | |
|---|---|---|
| М. | у я к і х? | *у невядомых далёкіх* (краінах) |

- Якія канчаткі маюць прыметнікі множнага ліку ў родным, месным і вінавальным склонах?
- Калі канчаткі вінавальнага склону прыметнікаў множнага ліку супадаюць з канчаткамі роднага і меснага склонаў?



Прыметнікі множнага ліку ў родным і месным склонах маюць канчаткі ***-ых*** (пасля асновы на цвёрды зычны), ***-іх*** (пасля асновы на мяккі).

Канчаткі вінавальнага склону прыметнікаў множнага ліку супадаюць з канчаткамі роднага і меснага склонаў, калі прыметнікі звязаны з назоўнікамі, якія абазначаюць жывых істот.

**71.** Пастаўце прыметнікі з назоўнікамі ў патрэбным склоне і запішыце. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў і абазначце склон.

Жывуць у *(родныя мясціны)*, вярнуліся з *(далёкія краіны)*, бегаў па *(знаёмыя сцежкі)*, сумаваў без *(дарагія сябры)*, плывуць па *(блакітныя рэкі)*, адпачываць на *(сінія азёры)*, гуляе па *(шырокія прасторы)*, сустракаюць *(дарагія госці)*.

- Складзіце два сказы з любымі словазлучэннямі.

**72.** Запішыце верш, устаўляючы канчаткі прыметнікаў множнага ліку. Абазначце склон.

### Жалудовая сталоўка

Да імшарын цёпл.. звык,
рые там **карэнне** дзік,
корміць імі парасятак
у піжам.. паласатых.
Зелянее дуб каронай,
жалудоў там смачн.. поўна,
ды шкада, што завысока
жалудовая сталоўка.

*В. Коўтун*

- Выдзеленае слова падзяліце для пераносу.

**73.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце вуснае апавяданне, прыдумайце загаловак. Ужывайце прыметнікі з назоўнікамі ў множным ліку.









Словы для даведкі: *яловых шышак, на высокіх елках, маленькіх зярнятак, зялёныя парасткі, маленькая елачка, на тонкіх галінках, рознакаляровых шарыкаў.*



**74.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі.

Між *(пясчаныя)* пагоркаў знаходзіцца лагчынка. Адтуль уздымаюцца ў неба доўгія слупы *(жаўтастволыя)* хвой. З лагчыны выцякае вузенькая крынічка. Яна поіць *(лясныя)* жыхароў чыстай вадой. Добра і самому напіцца. Такая вада здымае стомленасць.

Ваду з *(лясныя)* крыніц людзі называюць жывой. *Паводле З. Бяспалага*

- Выдзеліце канчаткі прыметнікаў множнага ліку. Абазначце іх склон.
- Растлумачце значэнне слова *жаўтастволыя.*

## Давальны і творны склоны

**75.** Разгледзьце табліцу. Якія канчаткі маюць прыметнікі множнага ліку ў давальным і творным склонах?

| | | |
|---|---|---|
| Д. | я к і м? | *вясёл**ым** звонк**ім*** (песням) |
| Т. | я к і м і? | *вясёл**ымі** звонк**імі*** (песнямі) |

● Якія канчаткі прыметнікаў множнага ліку ў давальным і творным склонах пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны, а якія — пасля асновы на мяккі?



У давальным і творным склонах прыметнікаў множнага ліку пасля асновы на цвёрды зычны пішуцца канчаткі ***-ым, -ымі***, а пасля асновы на мяккі — ***-ім, -імі***.

**76.** Запішыце сказы, дапісваючы канчаткі прыметнікаў множнага ліку.

1. Родны край вечна будзе свяціць для нас ясн.. зорамі. *(П. Прыходзька)* 2. Ярк.. вясёлкамі ззяюць росы ў моры жытніх каласоў. *(Я. Колас)* 3. Родн.. тваім далям краю не ідаць. *(Я. Колас)* 4. Калісьці людзі маліліся стар.. дубам. *(З. Бядуля)*

● Вызначце склон прыметнікаў множнага ліку, выдзеліце канчаткі.

● Складзіце свае сказы са словазлучэннямі *родны край* і *жытнія каласы*.

**77.** Прачытайце. Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку.

### Птушыная сталоўка

Кожную раніцу сад поўніцца птушынымі галасамі. Шэрым верабейкам, асцярожным сініцам і чырванагрудым снегірам тут заўсёды знойдуцца ласункі. Вераб'і частуюцца хлебнымі крошкамі, рознымі зярнятамі. Сініцы радуюцца маленькім кавалачкам несалёнага сала. Чырвонымі ягадамі рабіны ласуюцца снегіры.

Сады з птушынымі сталоўкамі ажываюць зімой.

*Паводле В. Хомчанкі*

- Вызначце склон прыметнікаў у множным ліку, выдзеліце канчаткі.
- Назавіце аднародныя члены сказа і растлумачце знакі прыпынку паміж імі.
- Растлумачце значэнне слова *чырванагруды.*

**78.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Над *(высокія)* гарамі,
над *(шырокія)* даламі
што гарыць без полымя?
А *(пільныя)* пажарным
зусім не ў цяжар,
іх не клічуць на пажар.

*А. Вольскі*



- Запішыце загадку, раскрываючы дужкі. Абазначце канчаткі прыметнікаў і вызначце іх склон.

● Выпішыце аднакаранёвыя словы, разбярыце іх па саставе.



**79.** Запішыце, устаўляючы канчаткі прыметнікаў.

Блакітн.. азёры — вочы Беларусі. Вялік.. і мал.., светл.. і цёмн.., лясн.. і балотн.. азёрамі славіцца беларуская зямля.

Азёры патрэбны не толькі нашым працавіт.. людзям, але і таленавіт.. паэтам і музыкантам. Свіцязь натхняла Адама Міцкевіча. Па матывах легенды аб Князь-возеры кампазітар Залатароў стварыў балет «Князь-возера». *Паводле У. Караткевіча*

● Вызначце склон прыметнікаў множнага ліку.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Што абазначаюць прыметнікі і на якія пытанні яны адказваюць?
2. З якімі словамі ў сказе звязаны прыметнікі?
3. Як вызначаецца род, лік і склон прыметнікаў?
4. Якое значэнне ў мове маюць прыметнікі?

# ЗАЙМЕННІК

## Займеннік як часціна мовы

**80.** Прачытайце сказы. На каго ўказваюць выдзеленыя словы?

1. Гэта ***я***. ***Мяне*** завуць Пеця.
2. Дарагая мама! ***Ты*** лепшая за ўсіх на свеце.
3. У ***мяне*** ёсць сябар. ***Ён*** вучыцца ў чацвёртым класе.

• Якія яшчэ словы могуць указваць на асобу або прадмет?



Словы ***я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны*** не называюць, а толькі ўказваюць на асобу або прадмет. Гэта займеннікі. Яны могуць ужывацца для сувязі сказаў у тэксце.

**81.** Запішыце тэкст. Падкрэсліце словы, якія ўказваюць на прадметы, але не называюць іх.

### Дзень нараджэння

У Сярожы быў дзень нараджэння. Яму споўнілася дзесяць год.

Мама з самай раніцы гатавала святочны абед. Яна спякла ***вялікі*** торт.

Тата выканаў ***запаветнае*** жаданне Сярожы. Ён падарыў сыну веласіпед.

У госці да Сярожы прыйшлі сябры — Рыгорка і Міша. Яны прынеслі ***пушыстага*** коціка.

Тата, мама, Сярожа і госці сядзелі за сталом, пілі чай з тортам і жартавалі. Усім было весела. *Паводле У. Паўлава*

- Як адрозніваюцца словы *Сярожы* — ***яму***, *мама* — ***яна***, *тата* — ***ён***, *Рыгорка і Міша* — ***яны***?
- Вызначце склон выдзеленых прыметнікаў.

**82.** Прачытайце тэкст. Выберыце і ўстаўце ў сказы назоўнік або займеннік, што ў дужках. Запішыце.

### Як Серп памаладзеў

Пад страхой ляжаў стары ржавы *(Серп — ён)*. Надакучыла *(Сярпу — яму)* ляжаць. Вырашыў *(Серп — ён)* папрацаваць.

Выйшаў *(Серп — ён)* у поле і ўбачыў *(Камбайн — ён)*. Пабег *(Серп — ён)* за *(Камбайнам — ім)* і пачаў зжынаць жыта, якое *(Камбайн — ён)* прапусціў. За работай *(Серп і Камбайн — яны)* не заўважылі, як сонца схавалася за гарызонт. Але *(Серп — ён)* не пакінуў поле і дажаў усё жыта.

Стомлены, вярнуўся *(Серп — ён)* дадому, пад родную страху. Глянуў у люстэрка — і вачам сваім не паверыў. З люстэрка глядзеў на *(Сярпа — яго)* бліскучы малады *(Серп — ён)*. *Паводле С. Будзюхіна*

- Для чаго служаць займеннікі ў тэксце?
- Якую ролю ў сказе могуць выконваць займеннікі?



Займеннікі ў сказе выконваюць ролю дзейніка або даданага члена сказа.

**83.** Замест займеннікаў пастаўце ў сказах назоўнікі і запішыце.

1. *Ён* свеціць, ды не грэе. 2. *Ён* ляціць без крылаў. 3. *Ён* дастаецца потам і працай. 4. *Ён* на свеце наймілейшы. 5. *Яе* маслам не сапсуеш. 6. *Яго* за грошы не купіш.










**84.** Падбярыце патрэбныя займеннікі і запішыце сказы.

1. ... зноў стаю перад бярозкай, што пасадзіў сваімі рукамі. *(П. Прыходзька)* 2. ... ***для лаўкі дошкі пагаблюем трошкі***. *(А. Вольскі)* 3. Хадзіў ка-

ток пад масток, лавіў рыбку за хвасток. Потым дзеду ... на печы казкі-байкі варкаваў. *(Я. Колас)*

- Якую ролю ў сказе выконваюць займеннікі?
- У выдзеленым сказе падкрэсліце дзейнік і выказнік. Якой часцінай мовы выражаны дзейнік?

## Асабовыя займеннікі

**85.** Разгледзьце малюнкі. Скажыце, хто або што гэта, не называючы асоб.



*Гэта* (х т о?) ... .



*Гэта* (х т о?) ... .



*Гэта* (х т о?) ... .



*Гэта* (ш т о?) ... .

- Выберыце і ўстаўце ў сказы займеннікі. Запішыце.

Словы для даведкі: *я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны*.



Асабовыя займеннікі ўказваюць на асобу або прадмет, пра які ідзе гутарка:

1-я асоба ***(я, мы)*** — гэта той або тыя, хто гавораць;

2-я асоба ***(ты, вы)*** — гэта той або тыя, да каго звяртаюцца;

3-я асоба ***(ён, яна, яно, яны)*** — гэта той, тая, тое, або тыя, пра каго або пра што гавораць.

**86.** Напішыце па памяці. Абазначце асобу і лік займеннікаў.

Я спяваю, ты спявай.
Я люблю свой родны край.
Ён загадак, песень поўны,
тут жыве народ цудоўны.

*А. Дзеружынскі*



Асабовыя займеннікі замяняюць у сказе назоўнікі. Назоўнік адзіночнага ліку можна замяніць займеннікам адзіночнага ліку, а назоўнік множнага ліку — адпаведным займеннікам множнага ліку:

| **Адзіночны лік** | | **Множны лік** | |
|---|---|---|---|
| **Назоўнікі** | **Займеннікі** | **Назоўнікі** | **Займеннікі** |
| *Алесь*<br>*Насця*<br>*дзіця* | *я, ты, ён*<br>*я, ты, яна*<br>*яно* | *Іван і Насця*<br>*дзеці* | *мы, вы,*<br>*яны* |

**87.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце асабовыя займеннікі і назвы тых асоб, на якіх яны ўказваюць.

### Пазнаёміліся

Дзеці гулялі ў двары. Яны бегалі навыперадкі, гушкаліся на арэлях.

Незнаёмая дзяўчынка падышла да шумнай кампаніі.

— Ты хто? — спытаў адзін хлопчык.

— Я — Каця, — адказала незнаёмка. — А вы хто?

— Я — Коля, ён — Сярожа, а яна — Марына. Мы будзем разам гуляць. *Паводле Л. Арабей*

- Выпішыце асабовыя займеннікі і назвы асоб, на якіх яны ўказваюць. Абазначце асобу і лік займеннікаў.

Узор: *яны (3-я ас., мн. л.) — дзеці, ...*

- Вызначце род займеннікаў 3-й асобы адзіночнага ліку.



Займеннікі 3-й асобы адзіночнага ліку ўказваюць на род: ***ён*** — мужчынскі род, ***яна*** — жаночы род, ***яно*** — ніякі род.

**88.** Запішыце сказы. Вызначце асобу і лік займеннікаў. Абазначце род займеннікаў 3-й асобы адзіночнага ліку.

1. Часам бывае, што мы ў сумятлівым* жыцці не заўважаем красы родных мясцін. *(М. Хведа-*

*ровіч)* 2. Якое ж яно, роднае Палессе, сёння? *(Б. Сачанка)* 3. Ён такі, што пракладзе сабе дарогу ў жыцці. *(Я. Колас)* 4. Пафарбаванымі сценамі і вокнамі яна выдзялялася сярод іншых хат. *(Т. Хадкевіч)* 5. Ён не такі, каб не сказаць праўды. *(С. Грахоўскі)*



**89.** Запішыце тэкст, устаўляючы асабовыя займеннікі.

Вясна была ранняя. ... прыйшла неяк раптоўна. З-пад снегу зямля радасна выглядала на свет. На шэрых плямах выбіваўся леташні бруснічнік. ... быў свежы і сакавіты. Прыемна купалася залатое сонейка ў маладым бярэзніку. ... шчодра аблівала сваім цяплом дрэўцы. Яшчэ праз які тыдзень ... выпусцяць зялёныя лісточкі. *Паводле Я. Коласа*

- Вызначце асобу і лік займеннікаў. Абазначце род займеннікаў 3-й асобы адзіночнага ліку.
- Для чаго трэба ўжываць займеннікі ў тэксце?

**90.** Разгледзьце табліцы змянення займеннікаў 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку па склонах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | х т о? | ***я*** | ***ты*** |
| Р. | у к а г о? | *у мяне* | *у цябе* |
| Д. | к а м у? | *мне* | *табе* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. | пра каго? | *пра мяне* | *пра цябе* |
| Т. | з кім? | *са мной (-ою)* | *з табой (-ою)* |
| М. | пры кім? | *пры мне* | *пры табе* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | хто? | ***мы*** | ***вы*** |
| Р. | у каго? | *у нас* | *у вас* |
| Д. | каму? | *нам* | *вам* |
| В. | пра каго? | *пра нас* | *пра вас* |
| Т. | з кім? | *з намі* | *з вамі* |
| М. | пры кім? | *пры нас* | *пры вас* |

- Як змяняюцца асабовыя займеннікі?
- Як пішуцца прыназоўнікі з займеннікамі?



Асабовыя займеннікі змяняюцца па склонах. Прыназоўнікі з займеннікамі пішуцца асобна.

**91.** Прачытайце і запішыце тэкст. Пастаўце пытанні да асабовых займеннікаў, вызначце іх склон.

***упэ́ўненасць***

Працу трэба любіць. У нас праца лічыцца справай гонару, сэнсам жыцця. Мы ствараем працай матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. Нам праца прыносіць асалоду і задавальненне. Для вас вучоба ў школе з’яўляецца нялёгкай, але цікавай працай. Вам належыць пазнаць свет, каб потым выбраць

працоўную дарогу на ўсё жыццё. Вы павінны быць упэўнены, што ў працы найбольшае шчасце. *Паводле Я. Брыля*

- Вызначце, якім членам сказа з'яўляюцца асабовыя займеннікі ў назоўным склоне.

**92.** Запішыце верш па памяці.

Мы засеем радасцю планету,
мы ўсмешкамі азорым шыр.
Нам належыць будучыня свету,
і таму для нас патрэбен мір.

*П. Прыходзька*

- Вызначце асобу і склон асабовых займеннікаў.
- Да слова *азорым* падбярыце блізкае па значэнні слова.



Пры ветлівым звароце да незнаёмага або старэйшага па ўзросце чалавека трэба ўжываць займеннік ***Вы*** і яго склонавыя формы ***Вас, Вам, Вамі***. Яны пішуцца з вялікай літары.



**93.** Прачытайце віншаванне вучняў настаўніцы. Які асабовы займеннік трэба ўжываць пры звароце да дарослых людзей?

*Дарагая Марыя Пятроўна!*

*Віншуем Вас са святам 8 Сакавіка.*

*Мы любім Вас за шчырасць, дабрыню і ганарымся Вамі.*

*Жадаем Вам здароўя, шчасця і добрага настрою.*

*Вучні 4-га класа.*

- Напішыце віншаванне сваёй настаўніцы, карыстаючыся такім узорам.

**94.** Разгледзьце табліцу змянення па склонах займеннікаў 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | х т о? | ***ён*** | ***яна*** | ***яно*** | ***яны*** |
| Р. | у к а г о? | *у яго* | *у яе* | *у яго* | *у іх* |
| Д. | к а м у? | *яму* | *ёй* | *яму* | *ім* |
| В. | п р а к а г о? | *пра яго* | *пра яе* | *пра яго* | *пра іх* |
| Т. | з к і м? | *з ім* | *з ёй (-ёю)* | *з ім* | *з імі* |
| М. | п р ы к і м? | *пры ім* | *пры ёй* | *пры ім* | *пры іх* |

- Як змяняюцца займеннікі 3-й асобы?
- Якія займеннікі 3-й асобы змяняюцца аднолькава?

**95.** Запішыце сказы. Вызначце склон займеннікаў 3-й асобы.

1. Чым далей адыходзіў Сцёпка ад сяла, тым больш мілым яно станавілася яму. *(Я. Колас)* 2. Дачка павярнулася да бацькі, азарыла яго светлай усмешкай. *(А. Куляшоў)* 3. Сын яго вучыцца на ін-

жынера. *(К. Чорны)* 4. Як прыемна дарыць людзям шчасце, як добра прыносіць ім радасць. *(С. Грахоўскі)*

**96.** Прачытайце.

Ёсць ***людзі*** з мудрай галавою,
з нязгасным сэрца ***аганьком***,
з магутнай сілай і красою —
мы іх героямі завём.
На іх шляхах, калі разважыць,
былі нягоды і імгла,
да іх вядомасць не адразу
цяпер праслаўленых прыйшла.

*П. Броўка*

- Запішыце. Абазначце асобу і склон займеннікаў.
- Зрабіце гука-літарны разбор выдзеленых слоў.



**97.** Запішыце тэкст, устаўляючы асабовыя займеннікі.

Родная беларуская зямля, ... гераічная і шматпакутная. Колькі разоў па ... грукаталі войны. Але ..., дзеці Беларусі, ганарымся тым, што ў гэтых войнах ... ніколі не была агрэсарам*.

Народ беларускі. Гэта ... адстаяў сваю веру і праўду. *Паводле У. Караткевіча*

- Вызначце асобу і склон займеннікаў.
- Як утворана слова *шматпакутная*?

**98.** Прачытайце тэкст і падбярыце асабовыя займеннікі.

Жыў адзін цікаўны хлопец Андрэй. Хацеў ... усё ведаць. Плывуць у небе хмаркі. Адкуль ... бяруцца? Шуміць за вёскаю рака. Куды бяжыць ...? Ззяе сонейка ў небе. Чаму ... такое яркае?

Адказвалі ... людзі, адказвалі, нарэшце і самі не ведаюць, што адказаць.

— Андрэй, ... хочаш быць за ўсіх мудрэй, — пачалі смяяцца з ... людзі. — Хіба ж трэба ... пра ўсё ведаць?

Словы для даведкі: *ён, яна, яны, яно, табе, яго, ты, яму*.

- Запішыце тэкст, устаўляючы асабовыя займеннікі.
- Вызначце асобу, лік і склон займеннікаў.

Успомніце казку «Андрэй за ўсіх мудрэй» і раскажыце яе.

**99.** Запішыце, раскрываючы дужкі.

Гуляў (з к і м?) з *(яна)*, сустракалі (к а г о?) *(мы)*, падарыў (к а м у?) *(ты)*, запрасіў (к а г о?) *(вы)*, зайшоў (д а к а г о?) да *(ён)*, паказаў (н а к а г о?) на *(яна)*, расказаў (п р а к а г о?) пра *(яны)*, сябруе (з к і м?) са *(я)*.

- Вызначце асобу і склон займеннікаў.
- Складзіце і запішыце два сказы. Разбярыце іх па членах сказа.

**100.** Разгледзьце малюнкі. Раскажыце, як хлопчыкі сустракалі шпакоў з выраю.

  

- Складзіце апавяданне. Выкарыстоўвайце асабовыя займеннікі.

 **101.** Запішыце, раскрываючы дужкі.

**Прабуджэнне зямлі**

Яшчэ нядаўна на палях ляжаў снег. Цяпер ад *(ён)* нічога не засталося.

Свеціць сонца. Ад *(яно)* цёплых промняў падымаецца ўгору пара.

Прыляцелі птушкі. *(Яны)* вясёлыя галасы разносяцца па ўсім лесе. Па дарожных каляінах бягуць звонкія ручаі. Вада ў *(яны)* чыстая і празрыстая. Усё мяняецца вакол, прыгажэе. Гэта прабуджаецца зямля. *Паводле М. Лупсякова*

- Вызначце лік і склон асабовых займеннікаў.

## ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:

1. Якія словы называюцца займеннікамі?
2. Назавіце асабовыя займеннікі.
3. Якія займеннікі ўказваюць на адзіночны лік, а якія — на множны?
4. Назавіце займеннікі 3-й асобы, якія ўказваюць на род.
5. Як змяняюцца асабовыя займеннікі?
6. Як пішуцца прыназоўнікі з займеннікамі?

# ДЗЕЯСЛОЎ

## Змяненне дзеясловаў па часах і ліках

**Успомніце!**

Што абазначаюць дзеясловы? Вызначце, да якіх часцін мовы адносяцца словы: *працаваць — праца — працоўны*.

Змяніце дзеяслоў *вучыцца* па пытаннях:

што рабіць?

| | |
|---|---|
| што рабіў? ... | што рабілі? ... |
| што робіць? ... | што робяць? ... |
| што будзе рабіць? ... | што будуць рабіць? ... |

**102.** Прачытайце тэкст. Назавіце дзеясловы, пастаўце да іх пытанні. Вызначце час і лік дзеясловаў.

Небасхіл ледзь прыкметна пасвятлеў. З-за воблака выбіваліся чырвоныя промні. І вось нарэшце выглянула сонца. Яно купаецца ў сваім святле. Агністы шар узнімаецца і плыве над зямлёй. Ён шчодра раздае цяпло. З усходам сонца зіхацяць кроплі ранішняй расы. Сіні туман падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Ранішняя свежасць хутка знікла. Пачынаецца гарачы дзень. *Паводле М. Ваданосава*

- Спішыце. Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць дзеясловы?

**103.** Прачытайце тэкст, падбярыце асабовыя займеннікі.

*звілісты*

### Мая вёска

Жыву ... ў вёсачцы. Нічога асаблівага тут не заўважаў. Але аднойчы ... прыйшлося вяртацца з лесу. Выйшаў на ўзгорак. Адтуль віднелася мая вёсачка. ... раскінулася ўздоўж лесу. ... здзівіўся — якая прыгажосць адкрылася перада мной. З аднаго боку да ... падступае лес, а з другога раскінуліся палі і сенажаці. У квецені садоў патанаюць сялянскія дворыкі. ... размясціліся паабапал прамой дарогі.

Стомленасць прайшла. ... сказаў сабе, што буду прыходзіць сюды часцей. *Паводле І. Шамякіна*

- Пастаўце пытанні ад асабовых займеннікаў да дзеясловаў.
- Выпішыце асабовыя займеннікі з дзеясловамі. Вызначце лік і час дзеясловаў.

**104.** Запішыце прыказкі, раскрываючы дужкі. Як пішацца ***не*** з дзеясловамі?

1. Праца нікога *(не)* ганьбіць, а поіць, корміць, вучыць. 2. Рана *(не)* устанеш — многа *(не)* зробіш. 3. Не за сваю справу *(не)* бярыся. 4. Учарашняга дня *(не)* вернеш. 5. *(Не)* хвалі сябе — няхай людзі пахваляць.

Па адной з прыказак (на выбар) складзіце тэкст-разважанне. Раскажыце.



**105.** Спішыце. Абазначце час і лік выдзеленых дзеясловаў.

Чуйце, чуйце, ***прыляцеў***
жаваранак, дзеці!
Чуйце — ***звоніць*** яго спеў
пра ўсё на свеце.

Ён ***пяе*** аб ясных далях,
дзе ***зайграў*** вясны струмень.
Пра цяпло-святло праталін
нам ***пяе*** ў вясновы дзень.

*К. Кірэенка*

- Вызначце склон асабовых займеннікаў.
- Разбярыце па саставе слова *вясновы*.

**106.** Запішыце казку. Падстаўце займеннікі 3-й асобы адзіночнага ліку да дзеясловаў прошлага часу. Вызначце род гэтых дзеясловаў.

### Зайчык няшчасны

Аднаго разу сядзеў зайчык засмучаны.

— Чаму я такі няшчасны, ніхто мяне не баіцца.

Ідзе ён да рэчкі, плача. А на беразе сядзела жаба. Убачыла зайца і скокнула ў ваду.

Узрадаваўся заяц і кажа:

— Ёсць звер, што і мяне баіцца!

- Як вызначыць род дзеясловаў прошлага часу?
- Падбярыце словы з блізкім значэннем да слова *засмучаны*.

**107.** Запішыце словы. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца.

Малюнак, маляваць, маляўнічы;
зелень, зялёны, зелянее;
праца, працоўны, працаваць;
святло, свяціць, светлы;
смех, смяяцца, смешны.

● Складзіце 2—3 сказы з дзеясловамі і запішыце. Разбярыце сказы па членах сказа.

**Памятка!**

Род дзеяслова прошлага часу можна вызначаць па займенніку 3-й асобы адзіночнага ліку, які падстаўляецца да яго:

1) трэба падабраць да дзеяслова прошлага часу займеннік 3-й асобы адзіночнага ліку: ***ён, яна*** або ***яно***;

2) па займенніку вызначыць род дзеяслова прошлага часу: *(ён) ішоў* — м. р., *(яна) ішла* — ж. р., *(яно) ішло* — н. р.

**108.** Выпішыце дзеясловы прошлага часу з назоўнікамі і займеннікамі ў адзіночным ліку. Абазначце род дзеясловаў прошлага часу.

Надакучыла людзям зіма. Пачалі яны вясну клікаць. Пачула іх вясна. Прыйшла яна на край поля. Узяла вясна сонца і падкінула высока. Сонца абагрэла зямлю. Дзень падаўжэў. Снег растаў.

Паклікала вясна птушак з выраю. Птушкі лес прабудзілі.

Пайшла вясна на луг і параскідала кветкі. Хутка яна прыйдзе ў вёску. Людзі даўно яе чакаюць. *Паводле А. Асіпенкі*



**109.** Замяніце, дзе трэба, назоўнікі асабовымі займеннікамі і запішыце тэкст.

*(Хлопчык)* хадзіў па двары. *(Хлопчык)* сумаваў. Потым *(хлопчык)* падышоў да старога *(дрэва)* і ўзрадаваўся. На *(дрэве)* расцвіла дзівосная кветка. *(Хлопчык)* прыгледзеўся і пазнаў *(матылька)* паўлінава вока. *(Матылёк)* складваў і адкрываў прыгожыя крыльцы. *(Хлопчык)* глядзеў на *(матылька)* і ўсміхаўся.

Аказваецца, што нават маленькі *(матылёк)* прыносіць чалавеку радасць. *Паводле П. Марціновіча*

- Вызначце род дзеясловаў прошлага часу адзіночнага ліку.
- Для чаго трэба ўжываць у тэксце займеннікі?

## Неазначальная форма дзеяслова

**110.** Прачытайце сказ. На якія пытанні адказваюць дзеясловы?

Прыемнасць — пазнаёміцца з чалавекам ветлым*, радасць — пагутарыць з разумным, удача —

знайсці сабе смелага сябра, шчасце — жыць, працаваць з чалавекам сумленным. *(М. Танк)*

- Ці паказваюць гэтыя дзеясловы на час, лік, род?
- Запішыце, пастаўце пытанні да дзеясловаў.




**Дзеясловы ў неазначальнай форме адказваюць на пытанні ш т о р а б і ц ь? ш т о з р а б і ц ь? Яны змяняюцца па часах, ліках і асобах.**

**Неазначальная форма дзеяслова можа заканчвацца на *-ць, -ці, -чы, -цца*.**

**111.** Запішыце прыказкі. Пастаўце пытанні да дзеясловаў неазначальнай формы.

1. Жыццё пражыць — не поле перайсці. 2. Спяшыць — людзей смяшыць. 3. Адной рукой вузла не завязаць. 4. Чым дакучліва бурчаць, лепей памаўчаць.

- Растлумачце сэнс прыказак.

**112.** Падбярыце па пытаннях ш т о р а б і ц ь?, ш т о з р а б і ц ь? дзеясловы ў неазначальнай форме і запішыце іх парамі.

У з о р: *пісаць — напісаць, рашаць — рашыць, ...*

Чытаць, бегчы, адчыняць, ехаць, глядзець, садзіць, лезці, цвісці, берагчы, араць, замяняць.

- Падумайце, у чым іх адрозненне.



**113.** Запішыце тэкст. Падкрэсліце дзеясловы ў неазначальнай форме.

1. Цяжэй за ўсё сябе перамагчы. *(С. Грахоўскі)* 2. Малады настаўнік стараўся заслужыць давер вучняў. *(Я. Колас)* 3. Даўняя гэта мара — паглядзець на Палессе. *(Б. Сачанка)* 4. Багата дзе ёсць чалавеку паказаць свой спрыт і талент. *(І. Мележ)*

**114.** Дапоўніце сказы дзеясловамі ў неазначальнай форме і запішыце.

У школе вучаць пісаць, ... .
Дзеці любяць гуляць, ... .
Дзеці ўмеюць спяваць, ... .

Словы для даведкі: *адпачываць, чытаць, танцаваць, маляваць, лічыць, бегаць, майстраваць.*

**115.** Запішыце дзеясловы ў неазначальнай форме.

Узор: *ідуць — ісці, ...*

Бягуць, нясуць, гуляюць, садзяць, едуць, ляцяць, цягнуць, збіраюць.

• Складзіце і запішыце 2—3 сказы з дзеясловамі ў неазначальнай форме.

**116.** Запішыце прыказкі, дапісваючы ***-ць, -чы*** ў дзеясловах у неазначальнай форме. Пастаўце пытанні да дзеясловаў у неазначальнай форме.

1. Лепш памаўча.., чым няпраўду каза.. . 2. Прадоўжы.. свой род — значыць збераг.. Радзіму. 3. Ла-

стаўцы дзень пачына.., а салаўю канча... 4. Лёгка раскідва.., ды цяжка сабра...

- Растлумачце сэнс прыказак.



**117.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да дзеясловаў.

**Дранікі**

Пачысціць і памыць в**я**лікую бульбу. Потым яе здзерці, дабавіць мукі, сыраквашы, солі і перам**я**шаць. Выкладваць лыжкай на моцна разагрэтую патэльню з алеем і смажыць.



Гатовыя дранікі, дробна нарэзаныя і падсмажаныя з цыбуляй і кавалачкамі сала, паставіць на некаторы час у печ ці духоўку. Падаць на стол з малаком ці см**я**танай.

- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.
- Выпішыце дзеясловы ў неазначальнай форме разам з назоўнікамі, якія з імі звязаны.

## Змяненне дзеясловаў цяперашняга і будучага часу

**118.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Як змяняецца дзеяслоў?

Я *(жыць)* у Беларусі. Ты *(жыць)* ва Украіне. Яна *(жыць)* у Расіі. Мы *(жыць)* і заўсёды будзем жыць дружна.

**Памятка!**

Асобу дзеяслова трэба вызначаць па займенніку:
1) падставіць да дзеяслова асабовы займеннік;
2) па займенніку вызначыць асобу дзеяслова.

**119.** Прачытайце і запішыце сказы. Вызначце асобу, лік і час дзеясловаў.

1. Свой лёс мы самі выбіралі не на гады, а на вякі. *(М. Танк)* 2. Дуб ломіцца, а траўка хіліцца. *(Прыказка)* 3. А што ты адкажаш, як хто запытае: якога ты роду, якога ты краю? *(Г. Іванова)* 4. Я слаўлю справу, слаўлю працу! *(М. Лужанін)*

• Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу? Назавіце канчаткі дзеясловаў.

**120.** Запішыце сказы. Падкрэсліце асабовыя займеннікі і дзеясловы, якія з імі звязаны. Вызначце асобу і лік дзеясловаў.

1. Днём марозным, у адлігу і ў спякотную пару я заўжды з табою, кніга, разважаю, гавару. *(П. Пруднікаў)* 2. Мы вандруем па планеце, не па сэрцы нам спакой. *(П. Пруднікаў)* 3. Сыраежкі, маслякі, вы не бачыце, які я нясу вам кошык — новенькі, харошы. *(Х. Жычка)* 4. І нарэшце дом гатоў, ён прымае жыхароў. *(І. Шуцько)* 5. Без жылля мурашкам гора, і яны будуюць горад. *(У. Шурпа)*

**121.** Змяніце дзеясловы па асобах і ліках. Запішыце, выдзеліце канчаткі дзеясловаў.

*Я спява***ю** — мы ..., ты ... — вы ..., ён (яна, яно) ... — яны ... .

*Я ід***у** — мы ..., ты ... — вы ..., ён (яна, яно) ... — яны ... .

*Я ста***ю** — мы ..., ты ... — вы ..., ён (яна, яно) ... — яны ... .

*Я вуч***у** — мы ..., ты ... — вы ..., ён (яна, яно) ... — яны ... .

- Складзіце і запішыце два сказы з асабовымі формамі дзеясловаў. Разбярыце іх па членах сказа.
- Якую ролю ў сказе выконваюць асабовыя дзеясловы?



**122.** Прачытайце. Падстаўце да дзеясловаў асабовыя займеннікі, вызначце іх асобу і лік.

На шырокіх прасторах сіняга неба ўзмахвае крыллем голуб. Птушка ляціць у чорную хмару. Яна не баіцца. А хмара ідзе, ужо зусім блізка. Вось-вось наляціць вецер, кіне птушку на зямлю. Але даганяе яе другі голуб. Яна запавольвае свой палёт. Абедзве птушкі паварочваюць назад. Стары голуб ратуе падлётыша*. *Паводле П. Марціновіча*

- Выпішыце дзеясловы разам з назоўнікамі. Абазначце асобу і лік дзеясловаў.

**123.** Дапішыце канчаткі дзеясловаў цяперашняга і будучага часу. (Гл. табліцу на форзацы.)

Я (ш т о р а б л ю?) *жада..* — ты (ш т о з р о б і ш?) *пажада...* .
Ён (ш т о р о б і ц ь?) *гавор..* — яна (ш т о з р о б і ц ь?) *пагавор...* .
Мы (ш т о р о б і м?) *гуля..* — вы (ш т о з р о б і ц е?) *пагуля...* .
Яны (ш т о р о б я ц ь?) *малю..* — яны (ш т о з р о б я ц ь?) *намалю...* .

• Складзіце два сказы і запішыце. Выдзеліце асновы сказаў.

**124.** Запішыце верш, устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх напісанне. Пастаўце пытанні да дзеясловаў, вызначце іх час.

Вось-вось праклюнуцца пупышкі
нясмелым лісцем на в..рбе.
Кудысьці ў сонечным зацішку
паўзуць мурашкі паўз цябе.

Сухая, цёплая такая
сц..жынка, што бяжыць у сад.
Ралля даўно з..рнят чакае,
не дачакаецца ніяк.

*М. Дукса*

• Вызначце асобу дзеясловаў.

**125.** Запішыце тэкст, пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе. Абазначце асобу і лік дзеясловаў. Выдзеліце канчаткі.

### З дзяцінства Янкі Купалы

*(Цурчаць, спяваць)* вясёлыя ручайкі. Янка *(пераскокваць)* цераз іх, калі *(бегчы)* у школу. Ён заўсёды *(хадзіць)* гэтай дарогай, *(любавацца)* наваколлем. Сем з лішнім кіламетраў *(не здавацца)* яму вялікай адлегласцю. Ён ніколі не *(спазняцца)*. Дзе там! Школьны вартаўнік *(адкідаць)* засаўку на дзвярах і заўсёды першым *(бачыць)* ля іх Янку Луцэвіча. У руках ён *(трымаць)* кнігі і сшыткі.

— Ты што ж гэта, хлопец, з першымі пеўнямі ў школу *(прыходзіць)*? — *(бурчаць)* вартаўнік.

— Вучыцца ахвота! — адказвае Янка. *Паводле З. Бандарынай*

- Словы *школьны, прыходзіш* разбярыце па саставе.



**126.** Запішыце верш, пастаўце дзеясловы ў цяперашнім або будучым часе. Абазначце асобу і лік дзеясловаў.

### Хачу падрасці

*(Хадзіць)* чуткі між дзяцей,
што з дажджом усё *(расці)*.
*(Пайсці)* ён — на паплавах
густа *(вырасці)* трава.

Дождж *(паліць)* — глядзі, дубок
новы *(выкінуць)* лісток.
Дождж, я веру, дабрадзей,
яго *(чакаць)* кожны дзень.

*М. Калачынскі*

- Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу?

**127.** Разгледзьце табліцу I і II спражэння дзеясловаў цяперашняга і будучага часу на форзацы 2. Параўнайце канчаткі дзеясловаў I і II спражэння.

- Якія канчаткі маюць дзеясловы цяперашняга і будучага часу ў 2-й асобе?
- Якія канчаткі маюць дзеясловы цяперашняга і будучага часу ў 3-й асобе?



Змяненне дзеясловаў па асобах і ліках называецца спражэннем.

Дзеясловы цяперашняга і будучага часу могуць быць I або II спражэння.

**128.** Праспрагайце дзеясловы. Карыстайцеся табліцай на форзацы.

I спражэнне: *я вяз**у*** — *мы вяз**ём***, *ты* ...
II спражэнне: *я лаўл**ю*** — *мы лов**ім***, *ты* ...

- Выдзеліце канчаткі дзеясловаў. Абазначце лік.
- Што такое спражэнне?

**Памятка!**

Асабовыя канчаткі дзеясловаў I і II спражэння:

I спражэнне: ***-у (-ю), -аш (-еш, -эш), -а (-е, -э), -ам (-ем, -ом, -ём), -аце (-еце, -яце), -уць (-юць);***

II спражэнне: ***-у (-ю), -ыш (-іш), -ыць (-іць), -ым (-ім), -ыце (-іце), -аць (-яць).***

**129.** Прачытайце верш.

Люблю пазіраць я
на поле вясной,
як ветрык жартліва
плыве збажыной.

Калышацца жыта,
радамі бяжыць.
А хваля паветра
дрыжыць і дрыжыць.

*Я. Колас*

• Запішыце верш па памяці. Абазначце спражэнне дзеясловаў цяперашняга і будучага часу, выдзеліце канчаткі.



**130.** Пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе, выдзеліце канчаткі і запішыце сказы.

1. Шчодра *(цвісці)* гэтай вясною сад. Усе дрэвы *(стаяць)*, як ружаватыя воблакі. Пахі *(поўніць)*

сад і вуліцу. *(І. Мележ)* 2. Я *(ісці)* і *(радавацца)* веснавому сонцу. *(К. Чорны)* 3. Што ты, пушча, трывожна *(шумець)* нада мною? *(У. Дубоўка)* 4. *(Стаяць)* дубы ў глыбокім роздуме. *(В. Вольскі)*

- Абазначце асобу і спражэнне дзеясловаў.

**Памятка!**

Каб вызначыць, да якога спражэння адносіцца дзеяслоў, трэба паставіць яго ў 2-й асобе адзіночнага або 3-й асобе множнага ліку.

Дзеясловы I і II спражэння выразна адрозніваюцца ў 3-й асобе адзіночнага ліку:

дзеясловы II спражэння маюць у канчатку ***-ць***: *ста**іць**, глядз**іць**, друж**ыць***;

дзеясловы I спражэння ***-ць*** у канчатку не маюць: *нясе**е***, *цяч**э***, *калыш**а***.

**131.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў 3-й асобе адзіночнага ліку, выдзеліце канчаткі і вызначце спражэнне дзеясловаў.

Узор: *нясу* — *нос**іць*** (II), ...

Стаю, жыву, едзеш, крычаць, размаўляеш, ляцець, спяваць, гуляюць, спаць, прыйдзеш, адпачнеш, напішаш.

- Складзіце з дзеясловамі некалькі сказаў і запішыце. Разбярыце іх па членах сказа.

**132.** Запішыце прыказкі, дапісваючы канчаткі дзеясловаў. Абазначце спражэнне дзеясловаў.

1. Языком работы не зроб... 2. Не пакладз.., то і не возьм... 3. Хто пыта.., той і веда... 4. Калі рана ўстан.., дык і ўсюды паспе... 5. Па бацьку пазна.. сыноў.

- Растлумачце сэнс прыказак.

Па адной з прыказак складзіце тэкст-разважанне і раскажыце.

**133.** Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі дзеясловаў.

1. Вочы адлюстроўваюць тое, што душа хавае на дне. *(Я. Нечыпаловіч)* 2. Чулае матчына сэрца адгадвае тое, чаго часта не бачыць сталы розум. *(Я. Колас)* 3. Калі да чалавека прыходзіць шчасце, ён забывае пра гора. *(П. Броўка)*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў.



**134.** Запішыце. Стаўце дзеясловы ў цяперашнім часе.

Памяць народа — гэта вялікае багацце, якое мы *(называць)* спадчынай. Гэта калыханка, якую *(спяваць)* табе маці. Гэта кніга, з якой ты *(ісці)* у школу. Гэта родная мова, на якой *(гаварыць)* твой народ. Гэта людзі, якія *(пакідаць)* пасля сябе добрыя справы. *Паводле В. Віткі*

- Абазначце канчаткі і спражэнне дзеясловаў.

## Напісанне асабовых канчаткаў дзеясловаў

**135.** Разгледзьце табліцу змянення дзеясловаў цяперашняга і будучага часу па асобах і ліках.

| Асоба | I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|---|
| 1-я | *спява**ю** вяж**у***<br>*спява**ем** вяж**ам*** | *ста**ю** гавар**у***<br>*ста**ім** гавор**ым*** |
| 2-я | *спява**еш** вяж**аш***<br>*спява**еце** вяж**аце*** | *ста**іш** гавор**ыш***<br>*ста**іце** гавор**ыце*** |
| 3-я | *спява**е** вяж**а***<br>*спява**юць** вяж**уць*** | *ста**іць** гавор**ыць***<br>*ста**яць** гавор**аць*** |

● Якія асабовыя канчаткі маюць дзеясловы I і II спражэння?

**136.** Ад неазначальнай формы дзеясловаў утварыце асабовыя дзеясловы і запішыце.

Узор: *касіць — я кашу, мы косім, ...*

Збіраць, капаць, вазіць, сушыць, насіць, саджаць.

● Выдзеліце асабовыя канчаткі дзеясловаў, пастаўце націск. Якія галосныя ў канчатках пішуцца пад націскам?

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў з гэтымі дзеясловамі, выдзеліце асновы сказаў.

**137.** Запішыце тэкст. Выдзеліце асабовыя канчаткі дзеясловаў.

Усходзіць сонца. Яно паволі выглядвае з-за небасхілу. Першыя промні падаюць на поле.

Па небе плыве ружовае воблачка. Ветрык гоніць яго да сонейка. Промні абдымаюць воблачка і саграваюць яго сваім цяплом. Воблачка ззяе ўсімі колерамі вясёлкі.

Вось ужо сонца слізгае па вяршалінах дрэў. Лес ажывае. На ўсе лады спяваюць птушкі.

Прачынаецца вёска. Сонейка залаціць стрэхі хат. Людзі пачынаюць свой працоўны дзень. *Паводле Я. Скрыгана*

Вусна складзіце план тэксту па абзацах і перакажыце.



**138.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе і запішыце сказы.

1. Ты *(любіць)* і дрэвы, і росы, і зорны загадкавы змрок. *(П. Панчанка)* 2. Векавы дуб *(стаяць)* паважны і спакойны ў сваёй велічы. *(І. Шамякін)* 3. *(Звінець)* жаўрук над полем залатым. *(П. Броўка)* 4. Зямля Беларусі! Вачамі азёраў *(глядзець)* ты ў празрыстыя высі нябёс. *(П. Броўка)*

● Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.

**139.** Дзеясловы 3-й асобы адзіночнага ліку пастаўце ў множным ліку і запішыце.

У з о р: *ходзіць — ходзяць, ...*

Носіць, вучыць, ловіць, дружыць, стаіць, служыць, глядзіць, спіць, ляжыць.

- Да якога спражэння адносяцца гэтыя дзеясловы?
- Складзіце і запішыце некалькі сказаў з гэтымі дзеясловамі.

**140.** Прачытайце верш. Запішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў.

Ясны блакіт вам, прасторы зялёныя,
хай жа над вамі з зары да зары
радасна жаўранкі звон.. натхнёныя,
сонца гар..!

*Р. Барадулін*

- Вызначце асобу і лік дзеясловаў. Абазначце спражэнне.

**141.** Запішыце сказы, пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе. Выдзеліце асабовыя канчаткі дзеясловаў.

1. Лес! Аб чым ён *(гаманіць)*? Пра што *(шумець)* яго вяршыні? *(Я. Колас)* 2. *(Звінець)* крыніцы, як цымбалы. *(Э. Агняцвет)* 3. Асілкі-дубы *(стаяць)*, як вартавыя вежы. *(І. Шамякін)* 4. Як люстра, возера *(ляжаць)* шырока ў ясны дзень. *(А. Бачыла)*

5. Хто сябе не *(любіць)*, таго і людзі не *(любіць)*. *(Прыказка)*

- Абазначце лік і спражэнне дзеясловаў.

**Памятка!**

Дзеясловы I і II спражэння можна адрозніваць, калі націск знаходзіцца на канчатку: *бяр**э́ш***, *няс**е́ш*** — I спражэнне; *ста**і́ш***, *бяж**ы́ш*** — II спражэнне.

Спражэнне дзеясловаў з ненаціскнымі канчаткамі можна вызначаць па неазначальнай форме:

1) паставіць дзеяслоў у неазначальную форму: *про́с**іць*** — *прас**і́ць***, *ву́ч**ыць*** — *вуч**ы́ць***;

2) да II спражэння адносяцца дзеясловы, якія ў неазначальнай форме заканчваюцца на ***-іць (-ыць), -ець (-эць)***.



**142.** Запішыце тэкст, устаўляючы канчаткі дзеясловаў. Абазначце іх лік і спражэнне.

Не ста.. на месцы жыццё ў Мінску. Шум.., бурл.. яго жыццёвая плынь.

Бяж.. транспарт па шырокіх вуліцах. Усюды віс.. шыльды, рэкламныя аб'явы. Людзі знаходз.. патрэбныя ўстановы, ладз.. свае справы.

Горад соч.. за часам. Горад кроч.. шырокім крокам. *Паводле А. Вялюгіна*

● Знайдзіце аднакаранёвыя словы, абазначце корань.

Вусна дапоўніце апавяданне часткай «Памятныя мясціны Мінска».

**143.** Пастаўце дзеясловы ў множным ліку. Запішыце і выдзеліце канчаткі.

Узор: *ма**е*** — *ма**юць***, ...

Бярэ, нясе, кажа, напіша, працуе, арэ, беражэ, гатуе, сячэ, пілуе, майструе.

● Вызначце асобу і спражэнне дзеясловаў.
● Складзіце і запішыце два сказы з дзеясловамі ў множным ліку.

**144.** Запішыце сказы, пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе. Выдзеліце канчаткі дзеясловаў.

1. З раніцы *(свяціць)* сонца, *(ляцець)* па небе белыя ціхія хмурынкі. *(І. Навуменка)* 2. Паплавы *(стаяць)* някошаныя, і дзе-нідзе другі раз *(зацвітаць)* кветкі. *(А. Асіпенка)* 3. Зоркі *(гарэць)* і *(граць)*, бы вочкі там чые *(міргаць)*. *(Я. Колас)* 4. *(Стаяць)* цёплыя сонечныя дні. Такія дні рэдка *(бываць)* у канцы верасня. *(К. Чорны)*

● Вызначце спражэнне дзеясловаў па неазначальнай форме.
● Слова *зацвітаць* разбярыце па саставе.

**145.** Прачытайце. Вызначце асобу і лік дзеясловаў.

Ахінаюцца сіняй смугой паплавы...
А над лесам высока ляцяць журавы.
То спакойна плывуць, не махнуўшы крылом,
то нібыта прыпомняць пакінуты дом,
замахаюць крыламі, балюча ўздыхнуць
і, як крык сваіх сэрцаў, «курлы» мне пашлюць.

*А. Бачыла*

- Запішыце. Выдзеліце асабовыя канчаткі дзеясловаў.



**146.** Запішыце тэкст, дапісваючы асабовыя канчаткі дзеясловаў.

На ўскрайку лесу ста.. высокі тоўсты дуб. Каля дуба шчабеч.. сойкі. Іх вельмі шмат. Яны то круж.. у паветры, то зноў пасяд... І так крыч.., што аж у вушах звін... Чаго яны тут гамон.., чаго шука..? Яны знаходз.. каля старога дуба цяпло і спажыву.
*Паводле Р. Ігнаценкі*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў, выдзеліце канчаткі.
- Падкрэсліце ў сказах назоўнікі 1-га скланення, вызначце іх склон.

**147.** Пастаўце дзеясловы ў 2-й асобе адзіночнага ліку. Запішыце, выдзяляючы канчаткі.

У з о р: *я ста**ю** — ты ста**іш**, ...*

Сяджу, назіраю, еду, працую, сплю, прыбіраю, іду, расказваю, гутару, чакаю, гляджу, сустракаю, вяду, вучу.

- Вызначце спражэнне дзеясловаў.
- Складзіце і запішыце некалькі сказаў з гэтымі дзеясловамі, разбярыце іх па членах сказа.

Памятка!

Дзеясловы I і II спражэння ў 1-й асобе адзіночнага ліку маюць аднолькавыя канчаткі ***-у (-ю)***. Для таго, каб вызначыць спражэнне, трэба:

1) паставіць дзеясловы ў 2-й або 3-й асобе: *раша**ю*** — *раша**еш***, *раша**еце***; *пішу* — *піш**аш***, *піш**уць*** (I); *лаўл**ю*** — *лов**іш***, *лов**іце***; *садж**у*** — *садз**іш***, *садз**яць*** (II);

2) па канчатку 2-й або 3-й асобы дзеясловаў вызначыць спражэнне.

**148.** Прачытайце сказы. Змяніце займеннікі і дзеясловы так, каб яны ўжываліся ў 2-й або 3-й асобе. Запішыце сказы.

1. *(Я люблю)* свой родны край. 2. *(Я дапамагаю)* сваім бацькам. 3. *(Я вучуся)* у 4 класе. 4. *(Я спяваю)* песню аб сваёй Радзіме. 5. *(Я служу)* сваёй Айчыне.

- Выдзеліце канчаткі дзеясловаў. Абазначце спражэнне.

**149.** Прачытайце. Змяніце 1-ю асобу расказчыка на 2-ю. Запішыце тэкст. Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.

Іду звілістай сцежкай у ягады, на хвілінку спыняюся каля ляснога ручая. П'ю сцюдзёную крынічную вадзіцу, набіраю ў біклажку* і крочу далей. З ягад вяртаюся — зноў каля крынічкі раблю кароткі прывал. Праганяю смагу, мыю рукі, асвяжаю твар. Потым слухаю няхітрую песеньку чачоткі ў чаромхавым кусце. Крыху адпачну ў цянёчку і пайду дадому. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- Які гэта тэкст — апавяданне, апісанне ці разважанне? Чаму?



**150.** Запішыце верш. Вызначце спражэнне дзеясловаў.

Люблю мой сад пад белым цветам,
люблю, зялёным як стаіць.
Люблю, як грушы спеюць летам
і як работай ён кіпіць.

*Цётка*

- Абазначце род, лік і склон назоўнікаў.

**151.** Запішыце верш, устаўляючы канчаткі дзеясловаў.

Любл.. я лес, адвечны бор,
дзе ўзнос.. хвоі ўгору шапкі,

дзе рассціла.. елі лапкі
і востры верх мкн.. у прастор.

*Я. Колас*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў.
- Да слова *адвечны* падбярыце словы з блізкім значэннем.

**152.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі.

*(Плыць)* па вадзе гняздо. У ім *(стаяць)* чомга*. На спіне *(сядзець)* яе малыя дзеці. Калі *(узнікаць)* небяспека, чомга *(ныраць)* у ваду разам з імі або *(узлятаць)* у паветра. Птушаняты ніколі не *(пакідаць)* сваю маці. *Паводле В. Вольскага*

- Вызначце асобу і лік дзеясловаў.

**153.** Запішыце прыказкі, устаўляючы патрэбныя дзеясловы. Растлумачце сэнс прыказак.

1. Разумны адзін раз ..., а хітраму даводзіцца двойчы ... . 2. На чужбіне і жывой вадой раны не ..., а дома нават крынічная ... . 3. У багатага не ..., трэба ... у беднага.

Словы для даведкі: *залячыць — залечыць, плаці́ць — пла́ціць, прасіць — просяць.*

- Знайдзіце дзеясловы неазначальнай формы.
- Выдзеліце канчаткі і абазначце спражэнне дзеясловаў.



**154.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Абазначце час дзеясловаў.

*(Прайсці)* цёплы дожджык. Паветра нечакана *(скалануць)* палявыя жаўрукі. Іх *(падтрымаць)* кнігаўкі, аўсянкі. У лесе *(зайграць, загаманіць)* рознымі галасамі дразды, берасцянкі, зелянушкі. На вершалінах дрэў *(стукаць)* дзятлы. А на балоце голасна *(крычаць)* белая курапатка. Усё жывое *(весяліцца)*. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў цяперашняга часу.
- Знайдзіце аднародныя члены сказа.

**155.** Запішыце тэкст, выдзеліце канчаткі дзеясловаў.

Жывуць буслы бадай што ва ўсім свеце. Яны любяць балоцістыя мясціны. Вось чаму мы часта сустракаем іх у сваіх родных мясцінах.

Людзі паважаюць буслоў, і яны ахвотна прылятаюць да нас. *Паводле А. Якімовіча*

- Вызначце асобу і лік дзеясловаў.

**156.** Прачытайце верш. Запішыце, устаўляючы канчаткі дзеясловаў.

Звон ад кузні на ўсю даль —
тут каваль гарту.. сталь.
Ці-ку, ці-ку! Ці-ку-так! —
малаточак б’.. ў такт.

Звон.. дружна і заядла
малаточак па кавадле.
Паглядз.. — і ўжо гатовы
коням новыя падковы.

*С. Шушкевіч*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў.

**157.** Складзіце загадкі і запішыце. Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.

1. У, чырвоны, боты, па, балота, хадзіць
2. Не, прасці, не, ткаць, а, людзі, апранаць
3. Хата, вартаваць, жыць, пад, ганак, хвост, абаранак
4. Па, палеткі, лятаць, сок, з, кветкі, збіраць

- Адгадайце загадкі.



 **158.** Запішыце тэкст, устаўляючы канчаткі дзеясловаў. Вызначце асобу і лік дзеясловаў.

Першымі прылята.. з выраю гракі. Гучным крыкам яны абвяшча.., што надыходз.. вясна. Услед за гракамі ляц.. жаўрукі і шпакі. Птушкі гамон.. на ўсе галасы. Яны знаходз.. свае гнёзды, раманту.. іх. Цяпер у іх шмат прыемных клопатаў. *Паводле Р. Ігнаценкі*

**159.** Запішыце тэкст пад дыктоўку.

***вастрыё***

Стракатыя дзятлы заўзята барабаняць па дрэвах. Вастрыём сваёй дзюбы яны дастаюць з-пад кары казюлек на абед і будуюць жыллё.

Збудуе дзяцел сабе хату, вавёрка адбярэ. Пабядуе дзяцел, ды нічога не зробіш. Паляціць ён на другую хвою і зноў пачынае ўсё спачатку. *Паводле А. Якімовіча*

● Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, вызначце спражэнне.

Вусна дапоўніце тэкст часткай «Дзятлаву хатку заняла сава».

***апетыт***

**160.** Прачытайце тэкст. Складзіце план з першых сказаў кожнага абзаца і запішыце.

***Сёння прыдуць госці.*** Не забудзь прыбраць у пакоі і апрануць прыгожае адзенне.

***Прыйшлі госці.*** Хутчэй адчыняй дзверы! Сустракай іх ветліва, з усмешкай. Дапамажы гасцям распрануцца і запрашай у пакой. Не забудзь пазнаёміць іх з бацькамі.

***Запрасі гасцей за стол.*** Сачы, каб госці не сядзелі перад пустымі талеркамі, пажадай ім прыемнага апетыту. Прапануй ім музыку, каб было весела.

***Развітанне з гасцямі.*** Правод гасцей да дзвярэй. Дапамажы ім апрануцца і адчыні дзверы. Не забудзь развітацца. *Паводле А. Дорахава*

Перакажыце тэкст ад 1-й асобы і запішыце пераказ.

- Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.
- Як вызначаецца спражэнне дзеясловаў?

**161.** Запішыце загадкі, устаўляючы канчаткі дзеясловаў.



1. Ідз.. паважнаю хадой,
   няс.. бліны пад барадой.

2. Каля плота выраста..,
   і пяч.., і куса.. .
   Рукавіцамі бяр..,
   бо рукі апяч.. .



- Адгадайце загадкі. Вызначце спражэнне дзеясловаў.

 **162.** Прачытайце тэкст. Колькі ў ім частак?

### Перасмешнік

Ходзіць Май па гаі. На скрыпачцы ён грае. Вакол яго птушкі на розныя галасы спяваюць.

Адзін дрозд маўчыць. Ён саромеецца сваёй песні. Параіў яму Май у другіх птушак навучыцца, але і сваёй песні не забываць. Паляцеў дрозд. А пра наказ забыў. Розных птушак слухае, песні іх запамінае.

Прыляцеў дрозд назад і пачаў спяваць. То шпаком свішча, то жаўранкам звініць, то салаўём цёхкае. А сваёй песні ніяк не ўспомніць. Так і спявае на ўсе птушыныя галасы. За гэта людзі завуць яго перасмешнікам. *Паводле К. Каліны*

- Выпішыце дзеясловы цяперашняга і будучага часу, выдзеліце канчаткі, абазначце спражэнне. Пазначце час дзеясловаў.

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу?
2. Як адрозніваюцца дзеясловы I і II спражэння?
3. Якія канчаткі маюць дзеясловы I спражэння? (Гл. табліцу на форзацы.)
4. Якія канчаткі маюць дзеясловы II спражэння? (Гл. табліцу на форзацы.)

## Змяненне дзеясловаў прошлага часу

**163.** Прачытайце тэкст. Пастаўце пытанні да дзеясловаў і вызначце іх лік і час.

Прыйшоў май. Зацвіў сад. Сюды зляцеліся птушкі, пчолы, матылі. Птушкі ўслаўляюць гэты сад. Пчолы бяруць нектар* з кветак. Матылі ласуюцца салодкім пылком.

Сонца ўсходзіць і заходзіць. Дзень змяняецца ноччу. Вось і лета надышло. Спеюць у садзе яблыкі. Хутка паласуемся рознымі сакаўнымі смачнымі гатункамі. *Паводле Н. Маеўскай*

- Спішыце. Абазначце час дзеясловаў.

Вусна дапоўніце тэкст часткай «Наступіў верасень».

**164.** Разгледзьце табліцу змянення дзеясловаў прошлага часу.

<table>
<tr><td>м. р. (ён)</td><td>чыта-ў</td><td rowspan="3">(яны) чыта-л-і</td></tr>
<tr><td>ж. р. (яна)</td><td>чыта-л-а</td></tr>
<tr><td>н. р. (яно)</td><td>чыта-л-а</td></tr>
</table>

- Як змяняюцца дзеясловы прошлага часу?
- Якія суфіксы маюць дзеясловы прошлага часу?
- Складзіце два сказы з дзеясловамі прошлага часу *пайшлі* і *ўбачылі*.


Дзеясловы прошлага часу ў мужчынскім родзе маюць суфікс **-ў-**: *бра-**ў**, грэ-**ў**-ся*. Пасля зычных суфікса **-ў-** не бывае: *нёс, вёз, бег, цёк*.

Дзеясловы прошлага часу жаночага і ніякага роду ў адзіночным ліку, а таксама дзеясловы множнага ліку маюць суфікс **-л-**: *іш-**л**-а, іш-**л**-о, іш-**л**-і*.

**165.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў прошлым часе і запішыце тэкст. Вызначце лік дзеясловаў прошлага часу.

Усё *(прыгажэць)* навокал. Усё *(буяць, цвісці, радавацца)* новаму дню. Над кветкамі *(лётаць)* матылькі, пчолы. Над зямлёй *(кружыцца)* тапалевы пух. У вадзе белыя лілеі *(раскрываць)* свае пялёсткі. У бярэзніку *(пахнуць)* суніцамі. *Паводле В. Хомчанкі*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.


У адзіночным ліку прошлым часе дзеясловы змяняюцца па родах. Род дзеяслова ў прошлым часе вызначаецца па роду назоўніка ці займенніка, з якім ён звязаны: *дуб (ён) шуме-**ў** (м. р.), бяроза (яна) шуме-**л**-а (ж. р.), дрэва (яно) шуме-**л**-а (н. р.)*.

**166.** Прачытайце верш. Запішыце яго па памяці.

Красавік ішоў сялом,
грэў прасторы ласкаю,
як махнуў ён рукавом —
вылецелі ластаўкі.

*Р. Барадулін*

● Вызначце час дзеясловаў, выдзеліце іх суфіксы, абазначце род.



**167.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў прошлым часе.

З далёкага краю *(прыляцець)* ластаўка. *(Сесці)* яна на страху і *(зашчабятаць)*. Яе шчэбет *(пайсці)* па ўсім двары. *(Уляцець)* ластаўка ў гумно, *(пагледзець)* на свой леташні домік. А ён за зіму *(абсыпацца)*.

*(Завітаць)* ў гумно і другая ластаўка. *(Пачаць)* яны разам рамантаваць гняздо. *Паводле Я. Коласа*

● Выпішыце дзеясловы прошлага часу разам з назоўнікамі або займеннікамі. Вызначце лік дзеясловаў. У дзеясловаў адзіночнага ліку вызначце род.

**168.** Прачытайце тэкст. Падстаўце да дзеясловаў асабовыя займеннікі.

Сонца падымалася. Ажывіліся птушкі. Першымі зацырыкалі вераб'і. Потым зашчабяталі ластаўкі. У лесе закукавала зязюля. На разложыстай ліпе

заклекатаў бусел. У садзе каля сваёй хаткі свістаў шпачок. Каля рэчкі ў алешніку цёхкаў, шчоўкаў, цырыкаў, булькаў, як ручаёк, салавей. Які цудоўны спявак гэты салавей! *Паводле В. Дайліды*

• Выпішыце дзеясловы прошлага часу з займеннікамі, якія вы падставілі. Абазначце іх лік і род у адзіночным ліку. Выдзеліце суфіксы.

У з о р: *яно падымалася* (адз. л., н. р.), *яны ажывіліся* (мн. л.), ...

**169.** Запішыце верш, дапісваючы суфіксы дзеясловаў прошлага часу.

Еха.. раніцай з-за гор
спелы, важны памідор.
Гна.. як мог веласіпед
і патрапі.. на абед
прама на талерку
хлопчыку Валерку.

*А. Бадак*

• Вызначце род дзеясловаў прошлага часу.

**170.** Пастаўце дзеясловы ў прошлым часе і запішыце тэкст.

У мяне *(жыць)* маленькая птушачка каралёк. Яна нічога не *(баяцца)*. *(Садзіцца)* мне на плечы, на руку.

Гэтую птушачку я *(падабраць)* у лесе з перабітым крылом. Цяпер яна ўжо *(паправіцца)*. Шкада расставацца, але трэба, бо гэта ж лясная птушка.

*(Прыйсці)* я ў лес, *(выпусціць)* гэтую птушачку. *(Пасядзець)* яна на галінцы і зноў да мяне *(вярнуцца)*. Цяжка было расставацца. *Р. Ігнаценка*

- Вызначце род дзеясловаў адзіночнага ліку прошлага часу.



**171.** Запішыце тэкст. Выдзеліце суфіксы дзеясловаў прошлага часу.

Як прыйшоў хлеб на ваш стол? Ці заўважалі вы? У магазіне купілі — вось і адказ.

А пачаў хлеб свой шлях з зярнят, якія ляжалі цэлую зіму. Потым яны прараслі ў полі і далі багаты ўраджай. З зерня змалолі муку. З мукі спяклі хлеб. І толькі потым ён патрапіў на стол. *К. Камейша*

- Як змяняюцца дзеясловы прошлага часу?

**172.** Запішыце тэкст, устаўляючы суфіксы дзеясловаў прошлага часу.

Дзед узя.. мяне з сабою на луг. Ён касі.., а я пракосы разбіва.. . Каса добра касі.. . Але тут дзед прысе.. і пача.. сухі мох корпаць сцяблінкаю.

Я падбег і ўбачы.. камячок воску. Адтуль вылеце.. тоўсты чмелік.

Дзед да.. мне саломінку. Я ўваткну.. яе ў васковую ямачку і пасмакта... Ой, як смачна! *Паводле В. Вітку*

- Знайдзіце аднакаранёвыя словы і абазначце корань.
- Назавіце займеннікі, вызначце іх асобу і склон.

**173.** Запішыце тэкст пад дыктоўку.

Ранняй вясной на палянах расцвітаюць кветкі. У гэты час чалавека вабіць лес. А з лесу людзі нясуць вялікія букеты кветак. Гэта нядобра. Жыццё вучыць нас быць дбайнымі гаспадарамі прыроды. Асабліва першыя краскі трэба ахоўваць. Ад іх залежыць не толькі хараство прыроды, але і жыццё многіх насякомых і птушак. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- Вызначце час і лік дзеясловаў, выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.

**174.** Прачытайце. Вызначце час і лік дзеясловаў. Абазначце род дзеясловаў прошлага часу адзіночнага ліку.

Зацвіла прыгожая ліпа. Кружылі вакол яе працавітыя пчолкі. Гулі ўсялякія мушкі. Але прайшоў час, адцвіла ліпа, паспела насенне. Маладое насенне пачало падаць на тутэйшы грунт. Шчасце было жыць там, калі ад аднаго толькі погляду на роднае прыволле рабілася светла і радасна на душы.

*Паводле Я. Коласа*

- Падкрэсліце дзеясловы неазначальнай формы.



**174.** Запішыце тэкст. Выдзеліце канчаткі дзеясловаў цяперашняга і будучага часу. Выдзеліце суфіксы дзеясловаў прошлага часу.

Запрасіў вожык у госці чарапаху, крата і саракanoжку. Чакае іх, чакае, ды ніяк не дачакаецца.

Чарапаха і цяпер недзе ідзе. А калі прыйдзе — невядома.

Крот пад зямлёй ішоў ды збіўся з дарогі.

Адна саракаnoжка прыпаўзла. Але пакуль лапкі выцірала, вожык спаць лёг. *Паводле В. Хомчанкі*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў цяперашняга і будучага часу.
- Вызначце лік дзеясловаў прошлага часу і іх род у адзіночным ліку.
- Растлумачце значэнне слова *саракаnoжка.*

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Што такое неазначальная форма дзеяслова?
2. Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу?
3. Як адрозніваюцца канчаткі дзеясловаў I і II спражэння?
4. Як змяняюцца дзеясловы прошлага часу?

# ПРЫСЛОЎЕ

## Прыслоўе як часціна мовы

**175.** Прачытайце. Устанавіце сувязь выдзеленых слоў з дзеясловамі па пытаннях.

1. Тут ***лёгка*** і ***радасна*** песні пяюцца, тут ***звонка*** і ***весела*** голас звініць. *(М. Танк)* 2. ***Велічна*** плыве сонца над прасторамі роднага краю. *(Я. Колас)* 3. Вясна прыйдзе маладая, ***усюды*** песні панясуцца. *(Я. Колас)*

- Запішыце. Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў.
- Ці змяняюцца гэтыя словы? Што яны абазначаюць?



У беларускай мове ёсць словы, якія абазначаюць прымету дзеяння ці якасці: *працуюць* (я к?) ***дружна***; *прыгожы* (я к? у я к о й м е р ы?) ***вельмі***. Гэтыя словы называюцца прыслоўямі.

Прыслоўі адказваюць на пытанні: я к? у я к о й м е р ы? к а л і? д з е? к у д ы? а д к у л ь?

Прыслоўі не змяняюцца ў сказах.

**176.** Прачытайце. Знайдзіце ў сказах прыслоўі. Што яны абазначаюць?

***улéтку***

1. Багата і шчодра ўпрыгожыла вясна зямлю. *(Я. Колас)* 2. Вакол ляжала маўклівае пустое поле.

*(Я. Колас)* 3. Улетку ўсё навокал зіхацела. *(І. Мележ)* 4. Прама пойдзеш — шчасце знойдзеш. *(Прыказка)* 5. Калі добра ўзарэш, то і добры ўраджай збярэш. *(Прыказка)*

- Выпішыце дзеясловы разам з прыслоўямі.

**177.** Запішыце верш па памяці. Падкрэсліце прыслоўі.

Пачынаем дзень спачатку  
фізкультурнаю зарадкай.  
Ра***з*** — ***налева***,  
два — ***направа***,  
кро***к*** — ***наперад***,  
крок — ***назад***.  
Нават Стась маленькі жвава  
патрапляе з намі ў ла***д***.

*А. Александровіч*

- У вершы прапушчаны дзеясловы, з якімі маглі быць звязаны выдзеленыя прыслоўі. Замест іх стаяць працяжнікі. Якія дзеясловы, на вашу думку, прапушчаны?
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**178.** Прачытайце. Пастаўце пытанні ад дзеясловаў да прыслоўяў.

Удзень стаяла гарачыня. Увечары яна спала. Ад вельмі моцнай спёкі пачалі вянуць расліны. Усёй

сям'ёй мы вёдрамі насілі ваду і шчодра палівалі агарод. Да лужынак імгненна зляталіся птушачкі. Яны весела трапяталі і гучна шчабяталі. *Паводле П. Кавалёва*

- Спішыце. Падкрэсліце прыслоўі.

**179.** Падбярыце прыслоўі па пытаннях да дзеясловаў і прыметнікаў і запішыце.

Слухаць (я к?) ..., рухацца (к у д ы?) ..., павярнуць (к у д ы?) ..., падымацца (к у д ы?) ..., падаць (к у д ы?) ..., устаць (к а л і?) ..., зайсці (а д к у л ь?) ... .

Вясёлы (у я к о й м е р ы?) ..., высокі (у я к о й м е р ы?) ..., малы (у я к о й м е р ы?) ... .

Словы для даведкі: *наперад, уважліва, назад, уверх, збоку, уніз, рана, вельмі, даволі, зусім.*

- Складзіце і запішыце тры сказы, ужываючы прыслоўі.

**180.** Прачытайце выразы. Запішыце па ўзоры. Знайдзіце і падкрэсліце прыслоўі.

У з о р: *добрая вучоба — добра вучыцца, вясёлы смех — весела смяяцца, ...*

Шчаслівае жыццё, цяжкая праца, радасная сустрэча, цікавы расказ, яркая зелень, моцны стук, прыемны адпачынак.

- Абазначце корань у аднакаранёвых словах.

**181.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце пра фізкультурныя заняткі дзяцей.




● Складзіце і запішыце сказы з прыслоўямі *хутка, далёка, добра, спрытна, налева, направа.*



**182.** Запішыце тэкст, устаўляючы прыслоўі ў сказы.

Музыкант ... правёў смычком па струнах. Музыка ... палілася. Прыемныя гукі ... напаўнялі залу. Яны гучалі то ..., то ..., то ... . Музыкант ужо скончыў іграць, а ў вушах яшчэ ... гучала чароўная музыка. *Паводле М. Корзуна*

Словы для даведкі: *асцярожна, хутка, высока, павольна, нізка, гучна, доўга.*

**183.** Прачытайце верш. Запішыце яго па памяці.

Грае вечар на цымбалах,
плаўна музыка гучыць.
А ў цёмна-блакітных далях
ярка зорачка гарыць.

*У. Карызна*

● Падкрэсліце прыслоўі.

**184.** Запішыце прыказкі, устаўляючы прыслоўі. Пастаўце пытанні да прыслоўяў.

1. Хто ... працуе, той і багаты. 2. Ветлівыя людзі ... размаўляюць. 3. Большаму ... дастаецца. 4. Пра добрага чалавека ... і пагаварыць.

Словы для даведкі: *добра, больш.*

● Знайдзіце аднакаранёвыя словы і абазначце корань.

Складзіце тэкст-разважанне па адной з прыказак (на выбар). Раскажыце.



**185.** Запішыце верш. Знайдзіце прыслоўі, пастаўце пытанні да іх.

Хо*дз*яць хмары, ходзяць бокам —
і далёка, і высока.
А да нас — хоць вельмі просім —
ні даж*дж*ынкі не прыносяць.

Толькі зрэ**д**ку дзесьці гром
прабяж**ы**ць з пустым вядром.
Дождж**ы**к, дождж**ы**к, секані,
спёку з поля прагані!

*В. Зуёнак*

• Выдзеліце канчаткі дзеясловаў, абазначце спражэнне.

• Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

**186.** Падбярыце да дзеясловаў патрэбныя прыслоўі па пытаннях і запішыце прыказкі.

1. Трэба (к а л і?) устаць, каб хлеба прычакаць. 2. Калі (я к?) косяць, то сена (к а л і?) не просяць. 3. Жураўлі ляцяць (я к?) — зіма яшчэ (д з е?). 4. Хто (я к?) запрагае, той (я к?) ездзіць.

Словы для даведкі: *павольна, высока, далёка, старанна, рана, хутка, зімою.*

Адну з прыказак выкарыстайце для складання вуснага апавядання. Раскажыце.

**187.** Прачытайце і пастаўце пытанні ад дзеясловаў да прыслоўяў. Выпішыце дзеясловы з прыслоўямі.

***про́сьба***

**Хто прыдумаў дыктант?**

Алесь някепска піша дыктанты. Але каб пісаць лепш, часта піша дыктанты дома.

Вечарам Алесь падышоў да таты з просьбай:

— Дыктуй, тата.

Тата ахвотна дыктуе. Алесь старанна піша. Але потым тата адклаў убок падручнік і сказаў:

— Цяпер я буду дыктаваць па памяці.

Алесь выводзіць сказ за сказам: «На дварэ хутка перастаў дожджык. Радасна засвяціла сонца. Ярка блішчаць лужыны. А я не магу прайсці міма, абавязкова ўлезу ў ваду».

Алесь зірнуў на тату:

— Ты пра каго гэта так?

— Пішы, пішы.

Алесь працягвае пісаць: «Прыйдзеш дадому ўвесь мокры — вось маме і работа. А яна хацела адпачыць».

— Дрэнны ты, тата, дыктант прыдумаў, — пачырванеў Алесь.

— Гэта не я прыдумаў, а ты, сынок, — кажа тата. *Паводле В. Ткачова*

**188.** Прачытайце сказы і параўнайце выдзеленыя словы. Пастаўце пытанні да іх. Што абазначаюць гэтыя словы?

1. Кожны ***дзень*** ішоў дождж. ***Удзень*** пайшоў дождж.

2. Я ніколі не забуду дарогу да роднага ***дому***. Пасля заняткаў хлапчукі не спяшаліся ***дадому***.

• Складзіце сказы са словамі *добра* і *добры*. Запішыце.

**189.** Ад дадзеных слоў утварыце прыслоўі і запішыце.

Узор: *раніца* — (к а л і?) *раніцай, ...*

Вясна — (к а л і?) ..., лета — (к а л і?) ..., гурт — (я к?) ..., ноч — (к а л і?) ..., ніз — (к у д ы?) ..., бок — (а д к у л ь?) ... .

- Складзіце і запішыце два сказы з утворанымі прыслоўямі.



**190.** Прачытайце тэкст. Выпішыце прыслоўі разам з дзеясловамі.

**Чаму стала весела?**

Сёння Ініна мама прыйдзе з работы позна. Сумна сядзіць Іна. Адкуль толькі сум бярэцца?

Чыста падмяла падлогу — весялей стала. Старанна памыла посуд на кухні — яшчэ весялей стала. Прыйшла мама з работы — зусім весела стала. Дзяўчынка раскавала маме, як было ёй спачатку сумна, а потым стала весела. *Паводле Ф. Рамашкі*

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ:**

1. Што абазначаюць прыслоўі?
2. На якія пытанні яны адказваюць?

# ПАЎТАРЭННЕ



**191.** Прачытайце і падзяліце тэкст на часткі.

**Па прыродныя дары**

Кажуць, што прырода корміць чалавека. Так яно і ёсць. Вясною ўсё навокал пачынае зелянець. Мы збіраем першае шчаўе. У ежу ідуць маладая крапіва, дзікая цыбуля, карані вадзяной лілеі. У лесе выспяваюць суніцы, чарніцы, маліны, брусніцы. Пасля цёплых дажджоў вырастаюць грыбы. Восенню пачынаецца пара збору арэхаў, жалудоў, грыбоў, журавін. А колькі ўсяго даюць нам палі, сады і агароды! *Паводле М. Чарняўскага*

● Запішыце тэкст. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**192.** Прачытайце і падзяліце тэкст на чатыры часткі. Вызначце тэму тэксту. Падбярыце загаловак.

Добра восенню ў вёсцы. З п***а***лёў збіраюць багаты ўраджай бульбы, капусты, буракоў. На п***а***плавах гатова да к***а***сьбы атава*. Адцвітаюць кветкі. Сеецца на з***я***млю насенне. Ім любяць ласавацца шчыглы і чыжы. Н***а***чамі пав***я***вае здаровы і прыемны х***а***ладок. Не лётаюць насякомыя. Яны с***я***-

дзяць абм**я**рцвелыя ў шчылінах пад лісцем. Увосень ночы доўгія. Калі хмары не закрываюць месяца і зорнага неба, на полі відаць далёка. *Паводле К. Чорнага*

- Вусна перакажыце тэкст па плане:

1. Восень у вёсцы.
2. На лузе.
3. Зніклі насякомыя.
4. Восеньскія ночы.

- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**193.** Прачытайце. Колькі частак у тэксце?

### Грунвальдская перамога

Беларусы і літоўцы заўсёды жылі разам. Разам яны бараніліся ад татарскіх заваёўнікаў і нямецкіх крыжаносцаў.

Крыжаносцы падступалі пад Вільню і Гродна. Яны палілі вёскі, разбуралі гарады.

І вось збіраецца вялікае войска. Беларусы, літоўцы, украінцы, палякі ідуць змагацца супраць крыжаносцаў.

Пачынаецца бітва. Не вытрымліваюць крыжаносцы. Бягуць, ратуюцца яны ад пагібелі. Так скончылася бітва пры Грунвальдзе. *Паводле В. Вольскага*

- Вызначце сродкі сувязі сказаў у тэксце.



**194.** Прачытайце. Вызначце аднародныя члены сказа.

### Падбел

Адна з першых прыкмет наступлення вясны — цвіценне падбелу. Падбел расце на адкрытых сонечных месцах каля чыгуначных насыпаў на берагах рэк на крутых схілах. У яго ярка-жоўтыя кветкі буйное лісце.

Сваю незвычайную назву падбел атрымаў за своеасаблівае лісце. Ніжні бок ліста пакрыты мяккімі валаскамі, а верхні бок гладкі і халодны. *Паводле В. Карчагінай*

- Запішыце тэкст. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.
- Падкрэсліце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.

**195.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку.

### Кот-выратавальнік

Вася вельмі любіў свайго к..та Мікіту. Аднаго разу здарыўся незвычайны выпадак. У двор заскочыў в..лікі рыжы сабака. Ён гл..дзеў мутнымі в..чыма на Васю і злосна гыркаў. Сабака гатовы быў кінуцца на Васю. Але ў гэты момант Мікіта скочыў з плота і стаў перад сабакам. Ён натапырыўся, зашыпеў і выставіў супраць сабакі вострыя кіпцы.

Злосны сабака спалохаўся і пабег па вуліцы. Вось так кот Мікіта выратаваў Васю. *І. Навуменка*

● Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце займеннікі. Якая роля займеннікаў у тэксце?

**196.** Прачытайце тэкст. Запішыце яго пад дыктоўку.

### У грыбы

Алесь і Пятрусь надумаліся пайсці ў грыбы. Яшчэ звечара яны падрыхтавалі кошыкі, нажы і адзенне.

Было яшчэ цемнавата. Хлопцы ўвайшлі ў лес. Птушкі шчабяталі, заліваліся на ўсе лады.

Прыйшлі яны ў сасновы бор. Першы баравік знайшоў Алесь. Потым знаходзіліся нават цэлыя сямейкі баравікоў, падасінавікаў, сыраежак.

Яшчэ сонца не паспела падняцца над лесам, а ў хлопцаў былі ўжо поўныя кошыкі грыбоў. *Паводле Я. Коласа*

● Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

● Да наступных слоў падбярыце і запішыце аднакаранёвыя: *бор, асіна, бяроза*. Абазначце корань і аснову слоў.

**197.** Прачытайце казку. Замяніце словы, што ў дужках, займеннікамі і запішыце. Для чаго ў сказах трэба ўжываць займеннікі?

На беразе сіняга мора стаяў казачны горад. Жылі ў ім шчаслівыя людзі. Удзень *(людзі)* працавалі, а ўвечары ігралі і спявалі.

Пра гэта даведаўся злы чараўнік. *(Злы чараўнік)* захацеў адабраць шчасце ў людзей і адзін быць шчаслівым. Прыляцеў *(чараўнік)* у казачны горад. Людзі там былі вясёлыя і шчаслівыя. *(Чараўнік)* спрабаваў адабраць людское шчасце, але не выйшла. Потым хацеў украсці яго. Зноў не атрымалася. Нарэшце *(чараўнік)* прапанаваў людзям шмат грошай за шчасце, але *(людзі)* адмовіліся.

І зразумеў злы чараўнік, што шчасце не ўкрадзеш і не купіш. Яго можна здабыць толькі добрымі справамі. *Паводле Г. Васілеўскай*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



**198.** Прачытайце. Апошні сказ перабудуйце ў пабуджальны і запішыце тэкст.

Лес ажыў. На дрэвах зелянеюць лісточкі. Птушкі ўюць гнёзды. Яны радуюцца цёпламу веснавому дню. Іх песні разносяцца па ўсім лесе. ***Я ўважліва слухаў чароўныя лясныя казкі***. *Паводле Я. Коласа*

- Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Вусна пастаўце пытанні да дадзеных членаў сказа.

**199.** Запішыце, раскрываючы дужкі.

Ёсць такая птушачка — заранка. Яе яшчэ *(малінаўка)* называюць.

Выйдзеш на досвітку з *(грыбны кошык)* на *(вясковая вуліца)* і пачуеш недзе: цюк-цюк-цюк-цюк.

Гэта яна, заранка. Ідзеш па полі, як зноў знаёмы голас. У лесе таксама не схаваешся ад *(птушыныя вочы)*. Заранкі цябе бачаць, а вось ты паспрабуй каторую ўбачыць! *Р. Ігнаценка*

• Вызначце род, лік і склон назоўнікаў. Абазначце скланенне.

**200.** Запішыце, устаўляючы канчаткі назоўнікаў і прыметнікаў.

На беразе рэчкі адзінока рос куст чорн.. парэчак. Вучні вырашылі абсадзіць чорн.. парэчк.. увесь бераг.

Калі растаў снег, вучні разам з настаўнікам нарэзалі чаранкоў з чорн.. парэчак і пасадзілі іх. Усё лета дзеці даглядалі свае пасадкі. К восені з чаранкоў выраслі маладыя кусцікі чорн.. парэчак. *Паводле Н. Парукава*

• З якімі словамі ў сказе звязаны прыметнікі? Як змяняюцца прыметнікі? Як вызначаецца род, лік і склон прыметнікаў?

**201.** Звяжыце прыметнікі з назоўнікамі і запішыце тэкст. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

Хто дрэўца пасадзіў — людзям дабро зрабіў.

Вось і ты пасадзіў *(маленькі)* дрэўца. Ты расцеш, і яно расце. Школу будзеш канчаць амаль *(дарослы)* чалавекам. Узнімецца высока і тваё дрэўца.

Многія дрэвы маюць імёны: *(дзед)* груша, *(мама)* яблыня, *(тата)* клён, *(дзядзька)* вішня. Людзі даюць дрэвам і імёны герояў.

Дрэвы захоўваюць памяць пра добрых і дарагіх людзей. *Паводле В. Віткі*

● Які сказ з'яўляецца прыказкай? Растлумачце сэнс прыказкі.



**202.** Спішыце, устаўце прыметнікі ў патрэбнай форме. Вызначце род і лік прыметнікаў.

Жыў мухамор у лесе. У тым лесе, дзе ў неба ўпіраліся ... сосны ды бярозы. Лес гэты славіўся ... баравікамі, ... падасінавікамі, ... сыраежкамі. Рос там і мухамор. Ён вельмі ганарыўся сабой. Але ніхто яго не браў. *Паводле Г. Васілеўскай*



Словы для даведкі: *высокі, буры, крамяны, чырвоны.*

● Раскажыце, чаму так называюцца грыбы.

**203.** Прачытайце і ўспомніце казку. Раскажыце яе.

*(Ускапаць)* дзед каля кустоў загончык ды *(пасеяць)* проса. *(Узысці)* проса, *(расці)*. Сонца яго *(грэць)*, дождждык *(паліваць)*. *(Цешыцца)* дзед з проса не *(нацешыцца)*. Добры ўраджай *(вырасці)*. Вось *(пайсці)* ён аднойчы глядзець проса, а па ім журавель *(таптаца)*.



- Пастаўце дзеясловы ў патрэбнай форме і запішыце ўрывак з казкі.
- Вызначце асобу і лік дзеясловаў цяперашняга і будучага часу, род дзеясловаў прошлага часу.

**204.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Вызначце час і лік дзеясловаў. Вызначце асобу дзеясловаў цяперашняга і будучага часу і род дзеясловаў прошлага часу.

У Нарачы *(вадзіцца)* цікавая рыба вугор. Ён не толькі добра *(плаваць)*, але і *(умець)* поўзаць па

зямлі. Рыбакі *(расказваць)*, што ў росныя месячныя ночы вугор *(выпаўзаць)* на поле есці гарох.

Ікру вугор *(адкладваць)* у далёкім Саргасавым моры. Для гэтага ён *(пераадольваць)* Балтыку і Атлантычны акіян. Шлях *(цягнуцца)* доўгія месяцы. Сам вугор больш не *(вярнуцца)* у Нарач. Сюды ўжо *(прыплываць)* яго дзецi. *Паводле У. Караткевіча*

- Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.

**205.** Прачытайце верш. Вызначце асобу і лік дзеясловаў цяперашняга часу.

**Летам**

Выйду, сяду каля саду
У зацішнай старане
І дзівіцца буду цуду,
Што цуднее ўкруг мяне.

Як для света грае лета
Песню спеўную быцця;
Бласлаўленне небам, хлебам
Шле сам бог, сама зямля.

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі;
У буйным лузе ззяюць, граюць
Кветкі, мошкі, матылькі.

Рэчка ўецца і смяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Шмыгаціць на паплаўкох.

*Я. Купала*

● Выпішыце дзеясловы цяперашняга часу, выдзеліце канчаткі, абазначце спражэнне.

● Выпішыце сказы з аднароднымі членамі сказа, разбярыце іх па членах сказа.

**206.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў прошлым часе і запішыце тэкст.

На беразе ручайка *(расці)* адзінокая разгалістая бяроза. Яе тоўстыя галіны *(звісаць)* аж да самае вады. Цэлымі днямі бяроза і ручаёк аб нечым *(размаўляць)*.

Ручаёк *(бегчы)* здалёк. Ён сваім звонкім голасам *(расказваць)* бярозе розныя цікавыя гісторыі, якія *(здарацца)* з ім на доўгім шляху.

Бяроза больш за ўсё ўважліва *(слухаць)* ручайка і маўчала. Толькі час ад часу нешта ціха і спагадліва *(шаптаць)* ручайку.

Часам да гэтай размовы *(далучацца)* вецер. Яму таксама было пра што расказаць бярозе.

*Паводле Я. Коласа*

● Вызначце род дзеясловаў прошлага часу. Абазначце ў іх суфіксы.

**207.** Прачытайце. Пастаўце дзеясловы ў цяперашнім часе і запішыце тэкст.

Магутны дуб *(стаяць)* наводшыбе за вёскай. Тоўстыя галіны дуба не *(варушыцца)*. Ён быў падобны на гару, якую ніщто не магло зрушыць з месца. Толькі ж раз *(падняцца)* навальніца. Хмары *(віцца)* чорным роем над дубам. Яны *(апяразваць)* дрэва агнявістымі стужкамі маланкі, *(трэсці)* яго моцнымі громамі. *(Наляцець)* буйны вецер і *(біцца)* з шумам аб гэтую нерухомую гару. Страшна *(станавіцца)*.

Нават крумкач моцна *(ушчэмліваць)* капцюрамі галіну, каб не скінуцца.

*Паводле Я. Коласа*

- Вызначце спражэнне дзеясловаў цяперашняга часу.
- Падкрэсліце ў сказах прыслоўі.

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Агрэ́сар** — той, хто нападае на іншую краіну з мэтай яе захопу.

**Аксамі́тны** — зроблены з аксаміту, падобны на аксаміт. Аксаміт — шаўковая тканіна.

**Ата́ва** — маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год.

**Бікла́жка** — бляшаная бутэлька для вады.

**Бруі́цца** — імкліва цячы.

**Ве́тлы** — тое, што і ветлівы.

**Гняды́** — пра каня: чырванавата-рыжы з чорным хвастом і чорнай грывай.

**Лаго́дны** — прыемны, мяккі, ласкавы.

**Некта́р** — салодкі сок, які выдзяляюць кветкі некаторых раслін.

**Падлётыш** — маладая птушка.

**Пурпуро́вы** — цёмна- або ярка-чырвоны колер.

**Ржы́шча** — поле, на якім расло жыта.

**Сумятлі́вы** — схільны мітусіцца, занадта мітуслівы.

**Чо́мга** — птушка, якая гняздуе на вадзе.

# ЗМЕСТ

## СЛОВА

Вучэбнае выданне

**Паўлоўскі** Іван Іванавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *К. І. Іванова*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Мастакі *Н. А. Хромава, І. А. Усенка, Л. А. Мурашка*
Камп’ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай*
Карэктары *Н. І. Пархун, К. В. Шобік, Н. М. Мамчыц*

Падпісана ў друк 10.06.2013. Фармат $70 \times 90\ ^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 3,8 + 0,4 форз.
Тыраж 19 880 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

